ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 10 (2641) • Чацвер, 8 сакавіка 1973 года • Цана 8 кап.

## СА СВЯТАМ, ДАРАГІЯ СЯБРОЎКІ!



Мал. І. БЯЛЕЦКАГА.

# САВЕЦКІМ ЖАНЧЫНАМ

Дарагія савецкія жанчыны!

Слаўныя дочкі нашай Сацыялістычнай Радзімы!

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза сардэчна віншуе вас з Міжнародным жаночым днём 8 Сакавіка—святам адзінства і салідарнасці працоўных жанчын усяго свету.

У нашай краіне гэта веснавое свята стала сапраўды ўсенародным. Сёння яно азорана святлом паўвекавога юбілею Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Савецкія жанчыны ўнеслі вялікі ўклад ў развіццё і ўмацаванне шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы, непарушнай дружбы народаў СССР. Разам са сваімі бацькамі, мужамі, братамі яны будавалі вялікі Савецкі Саюз, гераічна абаранялі яго ад ворагаў, забяспечылі росквіт нашай Радзімы, яе ўсебаковы прагрэс. У слаўны летапіс сацыялістычнай Айчыны залатымі літарамі ўпісаны іх імёны. І цяпер у адным страі з мужчынамі савецкія жанчыны ўзводзяць велічны будынак камунізму, ствараюць самае справядлівае, самае гуманнае грамадства на зямлі.

Ва ўмовах сацыялізму, у брацкай сям'і савецкіх рэспублік карэнным чынам змянілася становішча жанчын усіх нацыянальнасцей. Сапраўды свабодныя і раўнапраўныя, яны шырока выяўляюць свае выдатныя таленты і здольнасці. Няма такой галіны эканомікі, навукі, культуры і грамадскай дзейнасці, дзе жанчыны не адыгрывалі б велізарную ролю. На фабрыках і заводах, у калгасах і навуковых лабараторыях, у школах і бальніцах, у дзяржаўных установах і сферы абслугоўвання—усюды патрэбны клапатлівыя рукі, дапытлівы розум, гаспадарскае вока, душэўная цеплыня жанчын. Радзіма высока цэніць і дастойна адзначае заслугі сваіх дачок у камуністычным будаўніцтве.

Цяпер савецкі народ натхнёна працуе над ажыццяўленнем задач, якія вынікаюць з рашэнняў XXIV з'езда партыі, снежаньскага Пленума Цэнтральнага Камітэта КПСС, даклада Генеральнага сакратара ЦК КПСС Л. І. Брэжнева «Аб пяцідзесяцігоддзі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік». Па ўсёй краіне нарастае хваля сацыялістычнага спаборніцтва. Баявы лозунг трэцяга, рашаючага года пяцігодкі «Даць прадукцыі больш, лепшай якасці, з меншымі затратамі» стаў дэвізам мільёнаў. Няма сумнення, што ў барацьбе, якая разгарнулася за ўсямернае павышэнне эфектыўнасці грамадскай вытворчасці, савецкія жанчыны пакажуць узоры высокапрадукцыйнай, творчай працы, найстражэйшай эканоміі і ашчаднасці.

З пачуццём глыбокай павагі звяртаемся мы сёння да жанчын-маці. Першыя настаўніцы падрастаючага пакалення, яны выхоўваюць у дзяцей высокія грамадскія ідэалы і маральныя якасці, гадуюць іх свядомымі, працавітымі, дастойнымі грамадзянамі сацыялістычнай Радзімы.

Партыя і ўрад пастаянна клапоцяцца аб павышэнні народнага дабрабыту, аб тым, каб савецкія жанчыны маглі паўней задавальняць свае растучыя культурныя і духоўныя запатрабаванні, мелі ўсё больш спрыяльныя ўмовы для ажыццяўлення мацярынскага абавязку. Штогод уводзяцца ў строй мільёны новых кватэр, расце сетка дзіцячых устаноў, развіваюцца бытавыя службы, якія аблягчаюць дамашнюю работу. Намечаныя XXIV з'ездам партыі меры па паляпшэнню працы і быту жанчын няўхільна выконваюцца.

# РАЗМОВА ПРА МАЛАДУЮ ПАЭЗІЮ

### З ПАСЯДЖЭННЯ САВЕТА ПА БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ У МАСКВЕ

У Маскве, у Саюзе пісьменнікаў СССР адбылося пасяджэнне Савета па беларускай літаратуры. На парадку дня—абмеркаванне першых кніг маладых беларускіх паэтаў. Адкрыў пасяджэнне старшыня савета А. Аўчарэнка.

Размову пра паэзію, яе высокае прызначэнне пачаў сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР М. Луконін. Ён заклікаў маладых паэтаў быць у сваёй творчасці на ўзроўні дасягненняў сучаснай беларускай паэзіі.

З дакладам аб маладой беларускай паэзіі выступіў крытык У. Гніламёдаў.

У спрэчках прынялі ўдзел маскоўскія і беларускія паэты, перакладчыкі і крытыкі.

Д. Осін лічыць, што ўзровень першых паэтычных кніжак значна павысіўся. Аднак маладая паэзія павінна больш чуйна ўлічваць змены ў жыцці рэспублікі. Д. Осін зазначыў, што ніхто, на жаль, з аўтараў першых кніжак пакуль што не заявіў пра сябе як аўтар паэмы.

Я. Хялемскі таксама адзначыў, што маладая беларуская паэзія вельмі цікавая, але, на яго думку, ёсць зборнікі, у якіх нібыта ўсё міла і ў той жа час няма значных думак. Да такіх кніжак ён аднёс зборнікі М. Мінчанкі і В. Пака. Жыццёвая шматграннасць, пра якую сказана ў анатацыях, не адлюстравана ў гэтых зборніках.

М. Арочка звярнуў увагу на творчы рост маладых, на своеасаблівасць асобных паэтычных галасоў, у прыватнасці, на тонкія, яркія фарбы Ю. Голуба, на філасафічнасць Р. Семашкевіча. Перспектыўны, на яго думку, паэт А. Разанаў. Пры адчуванні народных вытокаў, сувязі з родным краем, некаторыя маладыя аўтары кідаюцца ў тую крайнасць, якая звязана з так званай «ціхай» паэзіяй, засяроджанай на травінцы, павуцінцы і г. д. У выніку працэс адкрыцця падмяняецца дэкларацыйнасцю.

Можна пісаць вершы і пра дождж, але не трэба забываць і пра чалавека. Вось гэтая акалічнасць, на думку М. Сідарэнкі, і з'яўляецца асноўнай. Кожнае перажыванне павінна быць асэнсаванае. Чытаючы некаторыя вершы маладых, бачыш, што чалавек здольны пачынае твор добра, але вырашэнне—палавінчатае. Паміж «жадаць» і «змагчы» — бездань. Мы паэты, часта паўтараем адзін аднаго, і таму з самага пачатку трэба рыхтавацца да выказвання **свайго** слова.

Д. Кавалёў лічыць, што трэба больш строга ставіцца да выдання першых кніжак, не засмечваць іх дробнатэмнымі творамі. На яго думку, цікавы першы зборнік І. Арабейкі. У маладога аўтара ёсць тыя задаткі, з якіх і павінен пачынацца паэт. Ёсць назіральнасць, музычнасць слова.

М. Ткачоў падкрэсліў, што рэдагаванне кніжак на грамадскіх пачатках—гэта справа гонару пісьменніка. Затым ён спыніўся на зборніках маладых паэтаў, запланаваных да выпуску у беларускім выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Асобныя маладыя паэты, сказаў А. Уласенка, аблюбавалі мінулую вёску, а калі пішуць пра сучаснасць—то дэкларацыйна, агульнымі словамі, нестае ім свежасці ўспрыняцця жыцця. Перажыванні не раскрываюцца, а называюцца. Заўважаецца прывязанасць маладых паэтаў да штампаў, да банальнасцей.

На думку Р. Куранёва, першая кніжка павінна даць права паэту ўключаць у будучым яе вершы ў збор твораў. Р. Куранёў звярнуў увагу на тэматычную аднастайнасць твораў маладых.

І. Бурсаў зазначыў, што першая кніжка можа быць і не пазбаўлена недахопаў, але ў ёй павінна адчувацца асоба пісьменніка. На яго думку, Я. Верабей—паэт са сваім «я», у яго вершах адчуваецца лёгкі гумар, душэўная ўсмешка. Жыццёвы вопыт дазволіць яму напоўніць творы больш значнай думкай. У Ю. Сапажкова — унутраны напор, пачуцці ёсць, але яму не заўсёды паддаюцца словы. Высокую ацэнку І. Бурсаў даў вершам С. Блатуна.

А. Аўчарэнка сказаў, што кніжкі пачынаючых паэтаў яго не расчаравалі. Аўтары хочуць, каб іх разумелі, па-добраму глядзяць на людзей. Часам, праўда, яны імкнуцца быць занадта прыгожымі. Калі ў чалавека, адоранага талентам, ёсць праўда і прастата, то прыгажосць прыйдзе сама. Выданне серыі «Першая кніжка паэта» ўвогуле заслугоўвае станоўчай ацэнкі і яе трэба працягваць, заключыў А. Аўчарэнка.

А. Грачанікаў падкрэсліў, што беларускія пісьменнікі з удзячнасцю прыгадваюць імёны М. Горкага, А. Твардоўскага, А. Пракоф'ева, М. Ісакоўскага, якія шмат зрабілі для папулярызацыі беларускай літаратуры сярод рускага чытача. Зараз актыўна перакладаюць Я. Хялемскі, Д. Осін, Д. Кавалёў, Р. Куранёў, М. Гарбачоў, І. Бурсаў і іншыя пісьменнікі. Добра было б, каб у наступны раз у зале прысутнічалі маладыя рускія паэты, з якімі магла б пазнаёміцца наша моладзь. Гаворка аб маладой беларускай паэзіі добра апярэджвае пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі, на якім будзе абмеркаваны стан сучаснай беларускай паэзіі .

Размову пра першыя кніжкі маладых падагуліў намеснік старшыні савета Н. Пашкевіч.

З падзякай за цікавы разгляд твораў ад імя маладых паэтаў выступіў Ю. Голуб. У пасяджэнні прынялі ўдзел таксама паэты К. Камейша, І. Арабейка, Я. Верабей, Г. Карпава, У. Дзюба.

**А. ГАРДЗІЦКІ.**

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

За шматгадовую плённую работу ў галіне тэатральнага мастацтва і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек Беларускай ССР Ляляўскі Анатоль Аляксандравіч узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

# ПАЭЗІЯ КІНО

Так называўся творчы вечар Анатоля Вялюгіна, які адбыўся 5 сакавіка ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР. Адкрыў вечар уступным словам намеснік старшыні праўлення СП БССР Іван Шамякін.

З увагай выслухалі прысутныя расказ Анатоля Вялюгіна пра яго працу ў кіно, прагледзелі фільмы «Савецкая Беларусь», «Я — крэпасць, вяду бой...», «Балада аб мужнасці і любві», створаныя па яго сцэнарыях. А потым пайшла гаворка пра гэтыя хвалюючыя стужкі, пра іх паэтычнасць і натхнёнасць. Асабліва высока ацанілі «Баладу аб мужнасці і любві» лаўрэат Ленінскай прэміі народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка, Еўдакія Лось, Алесь Махнач, Аляксей Слесарэнка і інш. Яны назвалі гэты фільм выдатнай падзеяй у беларускай кінадакументалістыцы.

# УДЗЕЛЬНІЧАЮЦЬ ТОЛЬКІ ЖАНЧЫНЫ

Выставачны салон Гомеля ў гэтыя дні ўпрыгожваюць работы жанчын-мастачак.

«Мае сучасніцы» — так можна назваць групавы партрэт маладых работніц, напісаны Б. Кузняцовай. Л. Пакаташкіна — часты госць на прамысловых прадпрыемствах і новабудоўлях вобласці. На выстаўцы экспануюцца яе работы «Васілевіцкая ДРЭС» і «Хімзавод».

Сябра дзяцей мастачка М. Ягорава мякка і лірычна пераносіць на паперу разнастайнасць дзіцячых характараў — «Лакамка», «Задуменны», «Ніна»...

Багатай фантазіяй і гумарам, народным каларытам іскрацца творы мастака-кераміста Т. Кіршынай «Лясныя ўзоры», «Дзівакі», «Мядзведзі». Яе кераміка дэманстравалася на дзвюх усесаюзных выстаўках.

Выстаўку сваіх работ жанчыны Гомельшчыны прысвячаюць Міжнароднаму жаночаму дню — 8 Сакавіка.

**Я. ГАЎРЫЛАВА.**



«Мая Радзіма» — так называецца фотавыстаўка, якая экспануецца ў фае Слуцкага кінатэатра «Цэнтральны». Ураджэнцы Случчыны Барыс Часалаў, Аляксандр Роўба, Вячаслаў Алешка, Віктар Беразняк, Вячаслаў Дубінка падрыхтавалі звыш 60 фотаработ, якія адлюстроўваюць працоўныя будні рэспублікі, яе непаўторныя краявіды, расказваюць аб земляках, дружбе народаў нашай Радзімы.

Фота Ул. КРУКА.

Цэнтральны Камітэт КПСС з задавальненнем адзначае, што жанчыны нашай краіны аднадушна падтрымліваюць ленінскую знешнюю палітыку Савецкай дзяржавы—палітыку міру і дружбы паміж народамі. Сваёй салідарнасцю з гераічнай барацьбой народаў Індакітая, удзелам у масавым руху супраць імперыялістычнай агрэсіі на Блізкім Усходзе, за ліквідацыю ўсіх ачагоў міжнароднай напружанасці яны актыўна садзейнічаюць умацаванню міру на зямлі. Верныя прынцыпам інтэрнацыяналізму, савецкія жанчыны расшыраюць сувязі з сяброўкамі з сацыялістычных краін, з працоўнымі жанчынамі ўсёй планеты ў імя ўсталявання вялікіх ідэалаў свабоды і сапраўднай дэмакратыі, нацыянальнай незалежнасці і сацыялізму.

У азнаменаванне выдатных заслуг савецкіх жанчын у камуністычным будаўніцтве ў СССР і адзначаючы плённую дзейнасць Камітэта савецкіх жанчын у міжнародным жаночым руху, вялікі ўклад у развіццё і ўмацаванне дружбы савецкага народа з народамі зарубежных краін, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў Камітэт савецкіх жанчын ордэнам Дружбы народаў.

Цэнтральны Камітэт КПСС горача віншуе вас, савецкія жанчыны, з гэтай высокай узнагародай Радзімы.

Дарагія жанчыны! Нястомныя працаўніцы, верныя дочкі нашай Айчыны! У гэты ўрачысты дзень Цэнтральны Камітэт КПСС жадае вам моцнага здароўя, невычарпальнай энергіі і бадзёрасці, новых поспехаў у працы і выхаванні дзяцей, сямейных радасцей, велізарнага шчасця!

Слава савецкім жанчынам — палымяным патрыёткам, будаўнікам камунізму!

Няхай жывуць працоўныя жанчыны ўсяго свету!

Няхай жыве наша вялікая сацыялістычная Радзіма!

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА**

# ГУЧЫЦЬ МУЗЫКА, ЛУНАЮЦЬ ПЕСНІ

Колькі радасці, кветак, усмешак можна ўбачыць на Тыдні музыкі для дзяцей і юнацтва, урачыстае закрыццё якога адбудзецца сёння ў Мінскім акруговым Доме афіцэраў.

Вось толькі некаторыя з мерапрыемстваў, што праходзілі ў час тыдня.

2 сакавіка выхаванцы музычных школ сталіцы далі канцэрт з твораў рускіх, савецкіх і замежных кампазітараў.

У канцэртнай зале філармоніі аматары музыкі 3 сакавіка сустрэліся з юнымі музыкантамі вільнюскай школы мастацтва імя Чурлёніса. У гэты ж дзень адбыўся камерны канцэрт з твораў беларускіх кампазітараў.

У акруговым Доме афіцэраў ансамбль Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі таксама падараваў мінскім школьнікам цудоўны музычны вечар.

Вялікі канцэрт адбыўся ў зале філармоніі 6 сакавіка. Выступалі выхаванцы сярэдняй спецыяльнай музычнай школы. У іх выкананні гучалі творы Бетховена, Чайкоўскага, Шапэна, Рахманінава, Сібеліуса.

7 сакавіка ў зале сярэдняй спецыяльнай музычнай школы праходзіла сустрэча юных кампазітараў. У іх ліку былі пераможцы рэспубліканскага конкурсу па складанню музыкі дзецьмі. Пасля канцэрта адбылася разгорнутая канферэнцыя.

Беларускі тэатр оперы і балета ў дні тыдня запрашаў на спектаклі юных аматараў опернага і балетнага мастацтваў. Яны праслухалі оперныя спектаклі «Яўгеній Анегін» і «Князь Ігар», «Міндзія» і «Зорка Венера», паглядзелі балет «Лебядзінае возера».

Шматлікія сустрэчы школьнікаў з беларускімі кампазітарамі адбыліся ў розных раёнах рэспублікі.

У госці да юных гамяльчан прыязджаў народны артыст СССР прафесар І. Жыновіч са сваім аркестрам. Ён выступіў у палацы культуры імя Леніна, цэнтральнай дзіцячай музычнай школе. У час сустрэчы юныя ўдзельнікі цымбальнага аркестра абласнога палаца піянераў пранікнёна і душэўна выканалі «Беларускую мелодыю» Жыновіча і іншыя яго творы.

У канцэртнай зале Гомельскага музычнага вучылішча імя Н. Сакалоўскага адбыліся сустрэчы старшакласнікаў горада з навучэнцамі і педагогамі музычных школ іншых гарадоў рэспублікі.

У Адэсе ў дзень урачыстага адкрыцця Усесаюзнага тыдня музыкі для дзяцей і юнацтва наша дэлегацыя, у складзе якой былі прадстаўнікі творчых арганізацый Беларусі Л. Бароўскі, К. Сцепанцэвіч, А. Філіповіч, А. Ракава, М. Дрыго і В. Каструлёў, прымала эстафету ад братняй Украіны.

Вясной будучага года наша рэспубліка будзе чакаць гасцей, якія прыедуць з усёй краіны на адкрыццё Усесаюзнага тыдня музыкі для дзяцей і юнацтва. Да новых творчых сустрэч, юныя сябры!

# СТУДЭНЦКАЯ ТЭАТРАЛЬНАЯ ВЯСНА СТАРТАВАЛА

На заслонах сталічных тэатраў і палацаў культуры «распусцілася» яркая кветка — эмблема студэнцкай тэатральнай вясны. Яна пачалася ў палацы культуры Мінскага камвольнага камбіната. У госці да студэнтаў прыйшлі дырэктары, рэжысёры, вядучыя і маладыя артысты сталічных тэатраў.

Пра свае творчыя планы, задумы, сустрэчы з калектывамі прадпрыемстваў, студэнтамі, школьнікамі расказалі дырэктары тэатра імя Янкі Купалы І. Міхалюта, оперы і балета М. Шаўчук, юнага гледача А. Вольскі, галоўныя рэжысёры Рускага тэатра БССР імя М. Горкага Ф. Шэйн і тэатра музычнай камедыі Э. Корсакаў.

Удзельнікі вечара ўбачылі ўрыўкі са спектакляў «Паўлінка», «Гарачае сэрца», «Зялёная птушка», «З любімымі не расставайцеся», пачулі арыі з опер і аперэт.

Студэнцкая тэатральная вясна, арганізаваная Мінскім гаркомам камсамола, студэнцкім клубам «Мара» сумесна з калектывамі мінскіх тэатраў, у гэтым годзе праводзіцца пад дэвізам — насустрач X Сусветнаму фестывалю моладзі і студэнтаў.

Амаль тры месяцы яна будзе гаспадарыць у тэатральных залах і студэнцкіх аўдыторыях беларускай сталіцы. За гэты час тысячы юнакоў і дзяўчат пазнаёмяцца з лепшымі работамі мінскіх тэатраў, будзе праведзены гарадскі фестываль самадзейных студэнцкіх калектываў. Лепшыя спектаклі прагучаць з падмосткаў прафесійнай сцэны.

Асаблівасці сёлетняй тэатральнай вясны — знаёмства студэнцкай моладзі з класічнай музыкай. Тэатр оперы і балета выдаў абанемент, які прадугледжвае прагляд такіх выдатных твораў, як «Фаўст», «Пікавая дама», «Рамэо і Джульета» і інш. Перад спектаклямі выступяць музыказнаўцы. Будуць наладжаны таксама экскурсіі ў музей тэатра.

А. ЮЗАФОВІЧ.

# ТВОРЧАЯ СПРАВАЗДАЧА

Летам мінулага года група беларускіх пісьменнікаў наведала шэраг раёнаў Мінскай вобласці. Літаратары пабывалі ў калгасах, сустрэліся з перадавікамі сельскай вытворчасці.

Удзельніка паездкі паэта Міхася Калачынскага ўразілі поспехі калгаснікаў Докшыцкага раёна, з якімі ён завязаў цесную дружбу і пасля яшчэ некалькі разоў наведаў раён. Вынікам гэтай дружбы з'явілася нізка вершаў «Докшыцкі каравай».

Абмеркаванне новых вершаў М. Калачынскага і было прысвечана сумеснае пасяджэнне партбюро і прэзідыума праўлення СП БССР.

Народныя паэты рэспублікі Пятрусь Броўка і Максім Танк цёпла павіншавалі паэта з творчай удачай, якая яскрава сведчыць аб тым, наколькі важнымі для пісьменніка з'яўляюцца непасрэдныя кантакты з людзьмі працы.

У абмеркаванні прынялі ўдзел В. Вітка, П. Пестрак, І. Шамякін, Э. Агняцвет, А. Марціновіч, А. Грачанікаў і іншыя, якія пажадалі паэту новых творчых поспехаў.

# ОРДЭН—ЧАСОПІСУ «ПОЛЫМЯ»



Урачысты момант уручэння ўзнагароды.

Фота Ул. КРУКА.

**Грамадскасць Мінска нядаўна адзначыла 50-годдзе літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Полымя», які пастаянна быў і застаецца прапагандыстам і правадніком у жыццё камуністычных прынцыпаў, палымяным летапісцам свайго часу.**

**За заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і актыўны ўдзел у камуністычным выхаванні працоўных Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР часопіс «Полымя» ўзнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны». 1 сакавіка ў Мінску ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбыўся ўрачысты вечар грамадскасці сталіцы, прысвечаны ўручэнню часопісу высокай урадавай узнагароды.**

**Вечар кароткім уступным словам адкрыў старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, народны паэт рэспублікі Максім Танк.**

**Слова атрымлівае Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў.**

**— Мне вельмі прыемна выканаць ганаровае даручэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР — уручыць літаратурна-мастацкаму і грамадска-палітычнаму часопісу «Полымя» высокую ўзнагароду Радзімы — ордэн «Знак Пашаны», — гаворыць таварыш Ф. А. Сурганаў.**

**Ён зачытвае Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні часопіса і пад бурныя апладысменты прысутных прымацоўвае ордэн да яго сцяга.**

**Затым Ф. А. Сурганаў уручыў групе супрацоўнікаў часопіса, якія ўзнагароджаны за плённую работу ў галіне беларускай савецкай літаратуры і друку і ў сувязі з 50-годдзем з дня выхаду першага нумара «Полымя», а таксама пісьменнікам-юбілярам, узнагароджаным за плённую літаратурную дзейнасць, Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета БССР. Ад імя Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і Савета Міністраў БССР ён горача і сардэчна павіншаваў рэдкалегію, супрацоўнікаў і аўтарскі актыў часопіса з вялікай урадавай узнагародай.**

**— За 50 гадоў свайго існавання часопіс «Полымя» ўнёс значны ўклад у развіццё беларускай савецкай літаратуры, у справу камуністычнага выхавання працоўных і расшырэння дружбы брацкіх народаў Савецкай Айчыны, шырокай прапаганды поспехаў нашай краіны ў будаўніцтве новага грамадства, — сказаў далей Ф. А. Сурганаў. — На старонках часопіса ўпершыню ўбачылі свет творы многіх выдатных дзеячоў літаратуры і мастацтва, імёнамі якіх ганарыцца цяпер уся савецкая культура. Дзякуючы «Полымю» чытач знаёміўся з творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Петруся Броўкі і Пятра Глебкі, Міхася Лынькова і Янкі Маўра, Максіма Танка і Аркадзя Куляшова, Івана Мележа і Івана Шамякіна і іншых беларускіх і многіх іншых савецкіх і прагрэсіўных зарубежных пісьменнікаў, дзеячоў мастацтва. Многія з гэтых твораў увайшлі ў залаты фонд савецкай сацыялістычнай культуры, з'яўляюцца яе гордасцю і багаццем.**

**Ахарактарызаваўшы гісторыю часопіса, Ф. А. Сурганаў працягваў:**

**— Сёння савецкі народ, цесна згуртаваны вакол роднай Камуністычнай партыі і яе ленінскага Цэнтральнага Камітэта, паспяхова будуе камуністычнае грамадства. Працоўныя Беларусі, як і ўсе савецкія людзі, шырока разгарнуўшы сацыялістычнае спаборніцтва за датэрміновае выкананне планаў трэцяга, рашаючага года дзевятай пяцігодкі, працуюць з небывалым уздымам, плённа, самааддана. Ганаровая задача пісьменнікаў, публіцыстаў, усіх работнікаў друку — сваімі спецыфічнымі, мастацкімі сродкамі паказаць гэты ўсенародны патрыятычны працоўны гераізм.**

**Флагман літаратурнай перыёдыкі рэспублікі — часопіс «Полымя» павінен і ў далейшым штодзённа клапаціцца аб умацаванні грамадска-выхаваўчай функцыі літаратуры, павышэнні яе ролі ў камуністычным выхаванні працоўных у духу высокай ідэйнасці, савецкага патрыятызму і пралетарскага інтэрнацыяналізму.**

**Жадаючы новых поспехаў, вялікіх дасягненняў у працы рэдакцыйнаму калектыву, яго шырокаму аўтарскаму активу, Ф. А. Сурганаў выказаў цвёрдую ўпэўненасць у тым, што часопіс «Полымя» будзе яшчэ больш актыўна змагацца за высокі ідэйны і мастацкі ўзровень беларускай савецкай літаратуры, імкнуцца да больш шырокага і прафесійнага мастацкага пранікнення ў глыбіні жыцця, гарачым і дзейсным пісьменніцкім словам дапамагаць працоўным рэспублікі ў іх высакароднай працы па ажыццяўленню рашэнняў XXIV з'езда КПСС, заданняў дзевятай пяцігодкі.**

**Тав. Ф. А. Сурганаў пажадаў беларускім пісьменнікам новых поспехаў у літаратурнай творчасці, добрага здароўя і вялікага асабістага шчасця.**

**Галоўны рэдактар часопіса «Полымя» К. Ц. Кірэенка сардэчна падзякаваў партыі і ўраду за высокую ўзнагароду, якой удастоены часопіс. Гэтая ўзнагарода, сказаў ён, натхняе ўсіх нас, работнікаў рэдакцыі, шырокі аўтарскі актыў на новыя дасягненні ў цяжкай і адказнай справе — выхаванні чалавека на прынцыпах высокіх камуністычных ідэалаў. Высокаідэйным мастацкім словам літаратуры сацыялістычнага рэалізму мы будзем усямерна дапамагаць партыі ў паспяховым вырашэнні ўсіх пастаўленых ёю задач.**

**Ад імя партыйнай арганізацыі Саюза пісьменнікаў БССР сакратар партбюро А. Н. Марціновіч запэўніў партыю і ўрад, што беларускія пісьменнікі у адказ на высокую ўзнагароду Радзімы, якой удастоены часопіс «Полымя», прыкладуць усе свае творчыя намаганні да стварэння твораў, вартых нашага часу. Камуністы пісьменніцкай арганізацыі рэспублікі, усе беларускія пісьменнікі выказваюць шчырую ўдзячнасць партыі за яе вялікія клопаты аб росквіце савецкай літаратуры, сказаў ён. Партыйная аранізацыя Саюза пісьменнікаў БССР поўная рашучасці накіроўваць усю сваю палітыка-выхаваўчую і арганізатарскую работу на тое, каб апраўдаць высокае давер'е народа.**

**Са словамі ўдзячнасці ад імя ўзнагароджаных выступілі пісьменнікі Алена Васілевіч і Анатоль Вялюгін.**

**На вечары прысутнічаў загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. В. Марцалеў.**

**БЕЛТА.**

# ЮБІЛЕЙНЫЯ СУВЕНІРЫ

Віцебск рыхтуецца да свайго 1000-годдзя. Юбілей будзе адзначаны выпускам мноства сувеніраў, выраблених з металу, дрэва, керамікі, тканін. Яны раскажуць аб памятных мясцінах горада, яго багатых гістарычных традыцыях. Адказны заказ выконваюць зараз віцебскія мастакі, народныя ўмельцы, калектывы цэхаў і прадпрыемстваў, навучэнцы прафтэхвучылішчаў.

У выставачнай зале адбылося абмеркаванне ўзораў юбілейных сувеніраў, на якім прысутнічалі партыйныя і савецкія работнікі горада, кіраўнікі прадпрыемстваў.

У сакавіку ў горадзе адкрыецца выстаўка лепшых сувеніраў, прысвечаных знамянальнай даце. З імі змогуць пазнаёміцца тысячы віцеблян.

А. ПАЛОНСКІ.

# ЗАРУЧЫНЫ

Мікола ВОРАНАЎ



ЯНА ледзьве не праспала каровы.

Звечара доўга не браў сон, варочалася з боку на бок, папраўляла падушку, а пад раніцу моцна задрамала. Будзільнік, што стаяў на стуле каля ложка, прамаўчаў. Прахапілася яна ад гулу, што плыў з вуліцы. Ляскаючы цяжкімі тракамі, некуды ішоў балотны экскаватар. «Раніца ўжо, а я сплю». Узяла будзільнік, Дзёмкаў падарунак да жаночага свята, і паглядзела. Ён быў не заведзены. «Во, галава...», — паўшчувала сябе і стала збірацца. Памітусілася ў парозе, шукаючы боты, але ўспомніла, што вечарам памыла іх і павешала на тыннік. Боты яшчэ не старыя, але прасочваюць ваду, трэба было б заклеіць. Яна ўсё збіраецца папрасіць каго, каб купілі ў мястэчку гумавага клею. Сама апошнім часам мала дзе бывае, днямі прападае ў лесе, у сваёй грыбаварні. Папляскаўшыся ў мыцельніку летняй вадой, Дзёмчыха выцерлася, выйшла на двор.

Быў жнівень, на траве і капусніку ляжала белая раса. Увесь агарод і лог абвалакло туманам, за ноч ён пасівеў, прапах атавай і прывялым бульбоўнікам. Бразнуўшы аб шуляк падойнікам, яна адчыніла дзверы ў хлеў і пачала даіць карову. Цыркнула разы два, нібыта прабуючы, і ўзялася даіць, зацiснуўшы каленямі падойнік.

Пакуль падаіла карову, працадзіла малако, узышло сонца. Зазырчэла, засвяцілася наваколле. За логам на рэчцы рэзка і звонка загагаталі гусі, у дварах зарыпелі дзверы і весніцы. Потым, узнімаючы пыл, паплыў вуліцай статак — чуўся млявы рык і тупат капытоў. Дзёмчыха выпусціла сваю Руту, далучыла да статка і падумала: «Ледзве паспела». Вярнулася ў двор, адчыніла дзверы ў клуню — дашчаную прыбудоўку да хлява. Сярод клуні стаяў старэнькі, з памятым бакам, аблупленай фарбай, матацыкл, у кутку да сцяны была прыстаўлена каляска ад яго. Каляску яна адняла, як пахавала свайго Дзёмку. Выкаціла матацыкл у двор, наліла ў вядзерца бензіну, дабавіла масла, размяшала і заліла ў бак. Пастаяла, падумала, ці не забыла чаго. Энергічна адкінула завадны рычажок і — таўхель, таўхель яго нагой... Матор завуркаў, залапатаў. Яна вырулiла на вуліцу, і, набаўляючы абаротаў, паехала. Глыжаватая дарога пад коламі запыліла За вёскай ля чэзлага альсу, нагнала статак, засігналіла. Пастух Саўка кінуўся ўбок, собіў у акрываўленую руку — яна была адхоплена ніжэй локця. На пальцы жаўцеў медны пярсцёнак. Страшная здагадка зварухнулася ў галаве — такі пярцёнак насіў на левай руцэ Пятрок. У вачах закружылася — ад спёкі, ад даўкага паху масла і газаў, ад перажытага. «Няўжо ніхто жывы не астаўся?»... Павярнулася, хацела ісці, але ў канаве нехта застагнаў. Яна спусцілася і пазнала Петрака. Ён ляжаў на спіне, падкурчыўшы ногі. З левага, пашкуматанага, рукава тырчала чырвоная кукса. Твар Петрака быў белы-белы. Перавязала хусткай куксу, давяла да трактара, пасадзіла ў кабіну. У Вялікіх Луках завезла яго ў бальніцу, а чалябінца перадала чырвонаармейцам—адразу прычапілі да яго цяжкую гаўбіцу...

Дарога звузілася, вяла, то мінаючы ўзбалотак, то агінаючы алёс. За бярэзнікам ляжала вялікае поле. Пасля вайны да яго прыаралі гектараў дваццаць старых раскарчаваных высечак. Прыворвала сама Дзёмчыха. У тое лета яна вельмі многа выпрацавала, заняла першае месца ў вобласці, і яе прэміравалі. За тую прэмію Дзёмка рашыў купіць матацыкл. Яна не пярэчыла, нават ухваліла яго думку. «Гэта ж і самой можна будзе падскочыць пры патрэбе ў эмтээс ці яшчэ куды». Яна раней за Дзёмку навучылася правіць матацыклам, ездзіла на працу ў аддаленыя брыгады. Дзёмка ж пракаціўся адзін раз. Быў ён вясёлы, нават няўмеру вясёлы, і не ўруляваў, перакуліўся. Разбіў фару, пагнуў бак і садраў на ілбе скуру. З таго і зарокся правіць матацыклам.

— Ну яго. Вайну прайшоў — не драпнула, а то ледзь галавы не скруціў.

З вайны ён сапраўды вярнуўся цэлы. Усе чатыры гады прабыў у нейкім харчовым складзе. Навучыўся піць. Згультаяваўся. Паставілі за брыгадзіра ў калгасе. Прыручыў, аб'ездзіў Бахуру—маладога чалага коніка. Уссядзе раніцай на Бахураву спіну і аб'язджае Драздова — выпраўляць людзей на работу. Аб'езд пачынаў з канцавой, Аніссінай хаты.

— Анісся, лён палоць. За Гараваткай. — І пасцёбвае правай рукой каня, нібыта ехаць спяшаецца, а левай нацягвае аброць, не пускае Бахуру, марудзіць.

Анісся пытала:

— Галаву папраўляць ці будзеш сёння?

— Трэба было б паправіць, Анісся.

Але з каня не злазіў. Анісся выносіла яму на ямку з бузянай вадой, усердзіўся: «Чорт паехаў...». За мастком дарога разгалінілася калявінкамі — і ўлева, і ўправа. Дзёмчыха павярнула ўлева. Росная трава сцябала па спіцах, пырскалася. З поля павеяў нізавы ветрык, зварушыў жоўтыя мяцёлкі ўзбоч дарогі і шапатліва запыніўся ў асінніку за канавай. Правей асінніку ляжала бульбяное поле, там трактар убіраў бульбяннік — днём зноў будуць капаць раннюю бульбу. Незадаволена лапоча старэнькі матор, Дзёмчыха гупаецца ў мяккім сядзенні, чэпка трымаючы руль...

Дзёмчысе даўно за пяцьдзесят. Але пачувае сябе, як сама казала, «зусім няблага». Калі ў жаночым гурце заходзіла гаворка пра перажытае, Дзёмчыха ахвотна прызнавалася:

— А мне дык нічога, я вельмі трывушчая.

Ёй зайздросцілі, дапытваліся:

— Гэта ж ці не трыццаць гадоў адрабіла ты на трактары?

— А во лічыце, — яшчэ больш падахвочвалася Дзёмчыха. — Гэта ж я ў трыццаць пятым на чалябінцы была прыехала. Як прагналі немцаў, зноў села на трактар. І год як пенсіянеркай...

У Драздове і цяпер помняць, як яна, зусім маладая, прыехала вясной на чалябінцы. Гэта быў аграмадны гусенічны трактар. І Пятрок, брат пастуха Саўкі, усё, бывала, падбіваў яе:

— Давай, Мальвіна, памяняемся трактарамі?

Петраку не падабалася, што Мальвіна выцягвала яго то з канавы, то з балацявіны. Ён рабіў на колавым, з вялікімі жалезнымі шыпамі, трактары. Але шыпы не вельмі выручалі, і даводзілася, накінуўшы на крук трос, бегчы да Мальвіны. Не дабіўшыся згоды памяняцца машынамі, Пятрок стаў сур'ёзна дамагацца другой згоды. Неяк перад святам, калі вярталіся разам з МТС, разгаварыўшыся, Пятрок раптам сказаў:

— Мальвіна, выходзіла б ты замуж за мяне? Жылі б прыпяваючы.

— Угу, запяеш тады...

Яна б, можа, прыняла гэта за жарт, калі б ён не стаў угаворваць. Тады яна сказала:

— Замуж, Пятрок, мне яшчэ рана.

А сама думала пра Дзёмку — ён сядзеў рахункаводам у канторы. Дзёмка не спускаў з яе вока, і праз год яны пабраліся. Але і мядовага месяца не пражылі разам, як навалілася вайна. Дзёмку мабілізавалі, павезлі ў Віцебск. А сама праз тыдзень разам з эмтээсаўскімі трактарыстамі павяла машыну на ўсход. Рухаліся больш уначы, але прыхоплівалі і дня. Каб не замінаць калёснікам, Мальвіна ехала на сваім чалябінцы абочынай, падбіраючы гусеніцамі купіны, корчыкі, пні. Пад Вялікімі Лукамі, акурат калі прыхапілі дня, наляцелі нямецкія бамбавозы. Мальвіна паспела заехаць у хвойнік і там чакала канца бамбёжкі. Але да канца было доўга. Немцы пайшлі на другі заход, потым быў трэці. Пасля трэцяга на дарозе дымелі груды жалеза, зеўралі чорныя ямкі. Па пяску расплываўся аўтол. Мальвіна ледзве не ўмлела, калі ўбачыла ўсё гэта. Ля скрамсанага радыятара ледзьве не наступіла на двор, ён браў шклянку і піў так, верхі. Пад поўдзень прыбягаў сын Сцяпанка і казаў:

— Мама, татка ля Аніссінай сажалкі ляжыць.

Яна садзілася на матацыкл і ехала па мужа. Усцягвала яго ў каляску і прывозіла дамоў. Часам ён і спаў у калясцы ў клуні. Праспаўшыся, прасіў:

— Пакрычы ты на мяне, Мальвіна. Чаго ты ўсё маўчыш?

— Не ўмею крычаць. Сам сябе пасаромся лепей.

Але сябе ён не саромеўся. І вось калі ехаў аднойчы п'янаваты ў поле, з-за паваротку, выючы, выскачыў грузавік. Бахура ўпудзіўся, шарахнуўся ўбок, Дзёмка вылецеў з сядла і собіў галавой у вастрабокі камень, што ляжаў у траве ля ўзмежку. Дзёмчыха прывезла яго ўжо нежывога...

За вялікім полем пачынаўся лес — асіннік, далей дробны хвойнік. На прагаліне стаяла хатка. Гэта і была грыбаварня.

Ля сцен расла глухая крапіва і стаяў густы маліннік. Ягады выспелі, асыпаліся. Дзёмчыха паставіла ля ганку матацыкл, папраўіла валасы — іх павыдзімала ветрам з-пад хусткі, і зняла з арэхавай рагаткі кошык. Здаваць грыбы прынясуць няскора, сама паспее набраць кошык, балазе браць іх любіць.

Па праўдзе кажучы, каб не Дзёмчыха, можа б і грыбаварні тут не было. Пайшла яна неяк па апенькі. Глянула — і не ведае, што рабіць: гектараў трыццаць занялі старыя высечкі і ўсюды апенькі кучамі. Тады і цюкнула ў галаву ёй думка адкрыць тут грыбаварню. Назаўтра выкаціла з клуні матацыкл і паехала ў мястэчка. У спажывецкім саюзе ўхвалілі яе прапанову. Прыехалі на месца, паглядзелі, а праз два дні прыслалі будаўнікоў. Яны секлі мяккі асіннік, абчосвалі і тут жа побач клалі ў зруб. На пяты дзень паставілі кроквы, прыбілі латы і акрылі зруб. Скора Дзёмчыха азарыла першыя апенькі.

Цяпер яна кіравалася ў стары асіннік, на высечках рабіць няма чаго, апенькі пойдуць у верасні. А на падасінавікі ды баравікі самая пара. Жнівень стаіць цёплы, з росамі. Разы два выпадалі дажджы. Яны не лілі, як у самае лета, а сыпалі дробна, высейваліся падоўгу — самыя грыбасеі. З густой травы, цяжка лопаючы крыллямі, падняліся сытыя цецерукі — іх тут паразвялося, лётаюць на прылесак малаціць авёс. «Калі б я была мужчынам...», — падумала Дзёмчыха, успомніўшы, што ў Драздове няма ніводнага паляўнічага. Прайшоўся асіннікам ветрык, затрапятала лісце, страсаючы паследкі расы. Браўся добры пагодлівы дзень. Недзе забрахаў сабака. Брэх быў глухі, лесавы. Мабыць, сабаку ўзяў хтосьці з грыбнікоў. Дзёмчыха выйшла на старую дарогу-ляжнёўку, па якой калісь прамгасаўскія машыны вазілі лес. Цяпер дарога густа парасла трыпутнікам, рамонкай і малачайнікам, бярвенчаты насціл утрухнеў. Злева на ўзбочыне вытыркнуўся з пажоўклай травы цупкі баравічок. Зусім маладзенькі, а ўжо загарэў, як цыган. Дзёмчыха акуратна зрэзала яго. Аглянулася — другі тырчыць. Гэтаму нехта ўдарыў па шапцы — вельмі ж набакірылася. Трэці быў дэзерцірам — адгуртаваўся ўбок і накрыўся жоўтым лістом. Баравікі пракідваліся ўзбоч дарогі і леваруч, і праваруч. І ўсё маладыя, здаровыя — мабыць, равеснікі, і, відаць, яшчэ халасцякі, бо сталі паадзіноку, не сем'ямі.

Ляжнёўка ўзяла лявей, у высечкі. Дзёмчыха пакіравалася далей, у асіннік. У гушэчу яна не палезла — там засень, грыб не любіць ценю, — а пайшла краёчкамі. І вельмі скора ўбілася ў падасінавікі. Лазовы кошык яе з тугой арэхавай дужкай паўнеў. Вышэй падымалася і сонца, выпарвала гаркавы пах асінавай кары. Паявіліся вусякі, зумкалі ля вушэй, кусаліся, і Дзёмчыха церабілася. Кошык быў повен, можна было б вяртацца, але ёй хацелася прайсціся далей — паглядзець, дзе якія грыбы, ці многа, каб заўтра прыйсці туды ці паслаць каго з сваіх грыбнікоў. Яна выйшла на прагал — вузкую прадаўгаватую паляну, на якой сям-там кучмаціліся лазовыя кусты. Далей ішоў бярэзнік. Пад старой раздвоенай бярозай стаяў сіні легкавічок. Да яго быў прывязаны на ланцужку сабака — маладая аўчарка. Яна адразу загаўкала, стала ірвацца з ланцужка. Відаць, хтосьці з мястэчка, а можа і з горада, прыехаў па грыбы на сваім аўтамабілі, а пільнаваць яго прывёз сабаку.

Дзёмчыха падалася ўбок. З бярэзніку, недзе з самага яго гушчару, слаба даносіліся галасы. Яна мерылася ўжо ісці назад, як пачула:

— Мальвіна Піліпаўна!

Не адразу паверылася, што гукаюць яе. Прывыкла: Дзёмчыха, ды Дзёмчыха... Але голас быў да яе, і яна азірнулася: якраз на бярозавым пеньчуку сядзеў чалавек... Яна пазнала Петрака. Ён закурваў: трымаў у зубах папяросу і чыркаў сярнічкай аб карабок, які прыціснуў да калена куксай. Сярнічку, пакуль даносіў да папяросы, гасіла, ён дастаў новую. Куксай ён не мог засланіць агеньчык ад ветру, і яму доўга не ўдавалася прыкурыць. Дзёмчыха назірала за Петраковым заняткам, міжволі прыгадала дарогу пад Вялікімі Лукамі, адарваную руку з медным пярсцёнкам на пальцы... Нарэшце ён прыкурыў, пусціў з рота клубок дыму і сказаў:

— Хадзі пагаворым, Мальвіна.

— Няма калі, Пятрок. — Але падалася да яго.

— Што ты тут робіш? — спытаў Пятрок, хаця і ведаў, чаго тут Дзёмчыха.

— Раблю. А ты ці не ў грыбы выбраўся? — Яна кінула вочы ў кошык, што стаяў ля пня.

— Выбраўся. Зяць з дачкой прыехалі, дык от навёў іх па грыбы.

— Гэта на машыне, што стаіць унь там, пад бярозай? — Яна павяла рукой на ўскрай прагалы і ўсміхнулася. — А сабака цябе не пакусаў? Воўк, а не сабака.

— Што праўда, то праўда — воўк. Зяць расстараўся. — І замаўчаў. Падумаў, памеркаваў. Потым насмеліўся і павёў далей, гаварыў ахвотна, як бы радуючыся. — Табе, Мальвіна, я праўду кажу — зяцем пахваліцца не магу. Адкрыта

# ПАЭЗІЯ, ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ

Беларуская савецкая паэзія знаходзіцца на пярэднім краі нашай літаратуры, карыстаецца высокім аўтарытэтам у чытачоў. Лепшыя яе набыткі вызначаюцца высокай ідэйна-мастацкай вартасцю, пільнай увагай да народнага жыцця, адчуваннем вялікай адказнасці, якая ўскладаецца на літаратуру нашым велічным часам. Разам з тым, ёсць шмат наспелых праблем у сённяшнім стане паэзіі, ёсць нямала таго, што замінае яе паспяховаму развіццю, яе ўплыву на чытача.

Застаўся тыдзень да адкрыцця чарговага пленума Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечанага пытанням паэзіі. На пленуме пісьменнікі Беларусі падвядуць вынікі паэтычнай працы апошніх год, пагавораць аб надзённых пытаннях развіцця паэзіі, аб яе верным служэнні партыі і народу.

Паэзія і сучаснасць—вось тая праблема, якая будзе ў цэнтры ўвагі на пісьменніцкім пленуме. Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва» звярнулася да ўдзельнікаў пленума з наступнымі пытаннямі:

1. Якія Вашы меркаванні аб стане сучаснай беларускай паэзіі?

2. Якой Вы думкі пра паэзію маладзейшых?

3. Над чым Вы зараз працуеце?

Прапануем увазе нашых чытачоў адказы паэтаў Г. Бураўкіна, Н. Гілевіча, В. Зуёнка, А. Лойкі, і крытыка Ул. Гніламёдава.

## Алег ЛОЙКА:



*1. Я не згодзен з тымі, хто лічыць, быццам сённяшняя паэзія ў чымсьці слабейшая ў параўнанні, напрыклад, з тым, што было ў нас у другой палове 50-х, у 60-х гадах. Там, мабыць, было ажыўленне, тут «ціхая паэзія», паўтарэнне, паслясмеў таго, што некалі бурна хвалявала, праца «на будучыню», на якую кожны чалавек, як вядома, глядзіць шмат у чым па-рамантычнаму, з доляй наіву, ілюзій. Для мяне ж сённяшняя наша паэзія —працаўнік, які рупліва дбае, прыспорвае знаходку за знаходкай, заваёву за заваёвай, адкрыццё за адкрыццём. Іх, можа, і менш было ў апошні час, чым хацелася б, але яны ёсць. Іх проста не можа не быць, бо ў нашай паэзіі — цэлая кагорта сапраўды выдатных паэтаў. Я не перастаю здзіўляцца маладосці таленту П. Броўкі, што праявілася ў зборніках «Між чырвоных рабін» і «Калі ласка», новым нізкам Максіма Танка, Пімена Панчанкі. Самацветамі заігралі для мяне многія вершы рознага часу В. Віткі, сабраныя пад вокладкай яго зборніка 1972 года «Праводзіны лета». Мяне радуе невычэрпная сіла творчых магчымасцей Р. Барадуліна, А. Вярцінскага, Я. Сіпакова, В. Зуёнка і іншых.*

*Але я быў бы няшчыры, калі б не сказаў пра свае трывогі.*

*Дасягнуты ўзровень нашай паэзіі — высокі. Наша паэзія даволі шырока пачала выходзіць на міжнародны форум. Гэта экзамен, а экзамена, як ні кажы, чалавек заўсёды баіцца. Ды як не баяцца: то мы «прымерваліся» адзін да аднаго «дома», а тут — выхад «на людзі». Тут нас пачынае абавязваць традыцыя: мы ж выступаем пасля Пушкіна, Лермантава, Байрана, Гётэ, Міцкевіча, Бадлера, Маякоўскага, Хікмета, Блока, Лоркі, Элюара, Няруды. Як многа сапраўды нам сёння трэба ведаць, увабраць у сябе — арганічна, гарманічна, каб быць на ўзроўні веку, часу!.. А, — што таіцца, — у сваім штодзённым, масавым патоку наша паэзія яшчэ вельмі часта шэрая, безаблічная, беспраблемная, пазаканфліктная.*

*У ідэале хацелася б, каб наша паэзія стала класічным выражэннем часу, нашай эпохі, шляхоў рэвалюцыйнага пераўтварэння чалавецтва, станаўлення гарманічнай асобы камуністычнага будучага. Эмоцыі, «філасофія» часу — яго самаістых унутраных дыялектычных законаў развіцця,—як рэдка ўсё-такі на іх замахваецца наша паэзія! А, на маю думку, быць на ўзроўні сучасных «сусветных мадэлей» паэзіі — гэта значыць стварыць такі новы паэтычны сімвал часу, якім, напрыклад, сталі ў свой час лермантаўскі адзінокі ветразь — сімвал адзіноцтва чалавека ў варожым яму сацыяльна-палітычным свеце, славуты вобраз цягніка — «Наш паровоз, вперед лети, в коммуне остановка»!..*

*Трывога мая і пра маладую паэзію. Так што гэтым я пераходжу да адказу на другое пытанне.*

*2. Маладых у нас зноў немалая плеяда. З яе, на мой погляд, вылучаюцца Галіна Каржанеўская, Святлана Басуматрава, Люба Тарасюк і іншыя. На іх плечы, па сутнасці, лягуць усе тыя агромністыя задачы, якіх пакуль што не дарабілі, якіх не даробяць іх старэйшыя таварышы. Хачу, каб чым хутчэй мае трывогі сталі трывогамі маладых.*

## Васіль ЗУЁНАК:



*1. Ёсць вершы, якія ўспыхваюць на зорным небе паэзіі, каб не згасаць ніколі. Яны шчасліва спалучаюць у сабе ўсе лепшыя якасці паэта. Сустрэча з імі — бязмежная радасць, бо адкрываеш для сябе цэлы свет думак, хваляванняў, надзей. Шчаслівую хвіліну прынёс мне 1972 год вершам Пімена Панчанкі «Прысніўся сон...» У класічнай гармоніі тут зліліся і такая знаёмая, дарагая нам панчанкаўская прага змагання, і роздум — самай высокай пробы.*

*Каб кожны год ды па такому вершу!*

*2. Не надта весела робіцца, калі пачынаюць пытацца ў цябе пра маладую паэзію: лічы, што сам ты ўжо неяк выключаны з гэтай кагорты. Да таго ж — гавары пра іншых, а думай пра сябе...*

*Сапраўды, занепакоенасць сённяшнім станам паэзіі маладых не беспадстаўная. Мала ў творах грамадзянскай мужнасці, юначага запалу і сталай мудрасці.*

*Магчыма, мы трошкі паэтычна распешчаны: падавай і падавай нам новыя таленты. А яны ж не растуць, як грыбы. Ды, урэшце, зацішша — гэта таксама стан паэзіі. Перад узлётам. Перад дзевятым валам. Няма сумнення — прагучыць у паэзіі слова маладых. Яны — прыйдуць. Трэба толькі старацца, каб праз нейкі дзесятак—другі год не апынуцца перад імі ва ўбранстве караля з казкі Андэрсена.*

*А гэта ўжо, бадай, і ёсць адказ на трэцяе пытанне.*

## Ул. ГНІЛАМЁДАЎ:



*1. Сучасная беларуская паэзія вельмі разнастайная па зместу і шматфарбная па індывідуальных стылях і формах. Агульная панарама яе развіцця даволі складаная. Удачы і перамогі чаргуюцца і мяжуюцца з часовымі спадамі, вяласцю ў мастацкім засваенні рэчаіснасці.*

*У мінулым годзе выйшла каля сарака паэтычных кніг, зборнікаў. Маю ўвагу прыцягнулі перш за ўсё кнігі выдатных майстроў беларускай паэзіі П. Броўкі «Калі ласка», М. Танка «Хай будзе святло», А. Куляшова «Далёка да акіяна»,*



Варлен БЕЧЫК

# ПРАД ВЫСОКАЮ КРАСОЮ...

*ЛІТАРАТУРНЫЯ НАТАТКІ*

**І прад высокаю красою,**
**Увесь зачараваны ёй,**
**Схілюся я душой маёй,**
**Натхнённай, радаснай такою,**
**А ў сэрцы хораша было,**
**Там запалілася цяпло...**

**М. БАГДАНОВІЧ.**

СЁННЯ ў нашай паэзіі — строгая пара. З яе многа спрошваецца, ад яе шмат чакаюць. Патрабаванні самыя высокія. Чытачы прагнуць і вострай надзённасці, і шырокай праблемнасці, грамадзянскай смеласці і ўнутранай напоўненасці. Няспелае слова, несамастойнае выказванне, павярхоўнасць думкі ніхто не схільны дараваць. Ды гэта нават і не патрабаванні, а прадумовы для дзейснага быцця паэзіі ў грамадстве. Каб душа адгукнулася на паэтычнае слова, патрэбна, каб гэта слова было праўдзівым, праніклівым, новым. Унутрана неабходным як для самога паэта, так і для нас, яго чытачоў.

Ці не таму сёння, калі вершаў пішацца шмат, калі ў паэзіі гучыць столькі галасоў, мы нярэдка чуем пераконаныя сцвярджэнні, што сучасная паэзія, калі не перажывае спад, то ўсё ж і не вельмі рухаецца ўперад, а быццам застыла на нейкім раздарожжы; вось з чаго, маўляў, слабее і чытацкая цікавасць да яе... Наколькі гэтае суб'ектыўнае ўражанне адпавядае аб'ектыўнаму стану сучаснай паэзіі, не бяруся зараз меркаваць. Ва ўсякім выпадку ігнараваць гэты скептычны погляд нельга. Вершаў сёння пішацца многа, можа нават болей, чым можна прачытаць, але далёка не заўсёды абуджаюць яны душу, выяўляюць унутраны змест і сэнс часу, успрымаюцца як жывая рэальнасць духу. Столькі выпадковага, неабавязковага, нежывога, бяздумнага, шэрага шапаціць на газетна-часопісных старонках і дамагаецца прызнання, што часам можна зразумець і самага скептычнага чытача.

Але ёсць жа, ёсць сапраўдныя вершы. І паэзія рухаецца, а не стаіць. І бярэ пазыўныя часу, і шмат дае і можа даць нашым душам. Нельга, каб слабыя творы, так званая «непаэзія», слабілі нашу ўвагу і прытуплялі ўспрыняцце **паэзіі**, якая ўсё-такі ніколі нас не пакідала.

Гартаю свежыя нумары часопісаў, нядаўнія і зусім новыя вершаваныя зборнікі. І колькі разоў адбываецца раптоўны і круты скачок свядомасці з будзённасці, нараджаецца новы поўны і змястоўны кантакт з жыццём, палоніць радасны і трывожны неспакой, што спадарожнічае сапраўднаму мастацтву.

Вось чытаю ў студзеньскай кніжцы «Полымя» вершы Максіма Лужаніна. Ціхія, някідкія вершы. Але якая тут — выяўленая і інтанацыяй, і вобразным ладам, і сэнсам, і настроем — унутраная напоўненасць, як прасторна і глыбока раскрываецца стан душы паэта, відзён яго характар, вопыт, як прыгожа і шчымліва-трывожна яднаюцца тут і прагавітая ўлюбёнасць у жыццё, і сум па незваротнасці, і мудрае прыняцце новай жыццёвай пары. І яшчэ многае, што актыўна суперажываецца і памнажаецца нашым чытацкім вопытам, доўжыцца ў нашай свядомасці паводле сваіх асацыяцый.

У лютаўскім нумары «Полымя» знаходжу вершы, якія сведчаць, што іх аўтары настроены на актыўнае душэўнае супроцьдзеянне тым небяспекам, што супроцьпаказаны паэзіі — абыякавасці, унутранай інертнасці, самазаспакоенасці. «Дружа, калі абыякавасць стомай санлівай, здрадлівай млявасцю, хітрай салодкай лянотай цела твае паспрабуе знясіліць, волю памкнецца аслабіць тваю — ты за работу бярыся тады найхутчэй...» (А. Зарыцкі). «Шукаю лекі ад небяспекі чужым зрабіцца для ўсіх». (А. Грачанікаў).

Згадваюцца і іншыя, прачытаныя і перачытаныя апошнім часам вершы, — яшчэ больш вынашаныя, выказаныя з адказнай і глыбока ўсвядомленай пераконанасцю:

«Без агністай пакуты, што мучае слепа, мне нічога не трэба, жыцця мне не трэба...» (А. Русецкі).

«Дай мне хаця б яшчэ старонку майго жыцця, мой добры лёс. Пабач, яшчэ ж мая сасонка не стала крыжам між бяроз. Дай мне хаця б яшчэ часцінку жывых надзей, мой добры лёс. Хаця б адну яшчэ слязінку мне асушыць у моры слёз...» (К. Кірэенка).

Як адным пачуццём народжана, сказана, «выдыхнута» новая кніга Пімена Панчанкі «Снежань». Трапяткія, пяшчотныя і суровыя словы поўняцца ў паэта то ўсмешкай, то пафасам, то болем, то радасцю — яны такія прамяністыя, такія чулыя, сардэчныя, запаветна-вынашаныя і пераконана-адказныя, самапатрабавальныя і зычлівыя, смелыя ў позірку на супярэчнасці жыцця, настойлівыя ў сцвярджэнні праўды.

Для Панчанкі рух часу, развіццё грамадства, уласная жыццёвая хада немагчымы без настойлівага імкнення да маральна-грамадскай гармоніі, без ахвярнай адданасці праўдзе, без душэўна-актыўнага служэння высокім ідэалам.

Паэт, які надзелены вострым адчуваннем сучаснага быцця, які кладзе на чуйныя шалі душы ўсё галоўнае, што хвалюе свет, — такі паэт не можа не адчуваць драматычную складанасць жыцця, суровае змаганне ў ім сіл зла і дабра, ідэалаў і дэмагогіі, праўды і хлусні. «Усё на сэрца цяжка легла, перамяшала страх і смех». Такі паэт ведае, усёй сваёй маральнай і духоўнай сутнасцю ўсведамляе, што для яго і для яго мастацтва сапраўдны і дзейны ўдзел у жыцці вымагае гранічнай змабілізаванасці натхнення і вопыту, заўсёднага адчування асабістай адказнасці за маральны стан грамадства, беззаветнага служэння ісціне. Ніякай палёгкі — ні жыццёвай, ні творчай: «Вечная незадаволенасць у сэрцы балючым рэхам... Чаго, пытаюся, варты я, на якой вышыні мой сцяг?» Ніякай дробнай мітусні каля мастацтва, ніякіх дробязных клопатаў аб асабістых выгадах і душэўнай утульнасці, ні хітранькай паўпраўды, ні паказной смеласці. «Гарэць для людзей хоць малым, але толькі агнём», — якую сілу і духапад'ёмнасць набывае гэты паэтаў дэвіз, калі ён вынікае не з бадзёра-рытарычнага кантэксту, а ідзе з сэрца, якому трудна ад вечных перагрузак: «Я трымаюся цудам між зямлёю цяжкою і небам, між травой і жарствой, паміж ноччу і днём». Паэтычнае, духоўнае Панчанка здабывае з будзённасці праз незвычайна напружанае перажыванне, і толькі такая напружанасць дазваляе яму з'яднаць разам небасхілы духоўнага быцця сучасніка з кляновымі лістамі, зялёнай бліскавіцай, ільнамі, ліпнёвым голлем, уключыць у драматычнае адчуванне і радасна-свежы позірк на існы свет. Вечнасць, вопыт, час, шчасце, будучыня для Панчанкі не толькі абагуленыя катэгорыі быцця і чалавечага існавання. Яны падначалены крытэрыям маральнасці, суадносяцца з дабратой і праўдай.

**...Часам думаеш да стомы:**
**Што нам нясе шалёны век?**
**А хто такія мы?**
**А што мы?**
**Якім ты станеш, чалавек?**
**Ад колькіх ісцін адрачыся**
**І адцурацца хіб якіх,**
**Каб жыць прасцей, а не ўрачысцей,**
**Ды і чысцей на ўсе вякі?**

Такая паэзія не можа пакінуць абыякавымі сваіх чытачоў, яна множыць наш вопыт, актывізуе душу і свядомасць.

А яшчэ ж у беларускай паэзіі ёсць Броўка, Танк, Куляшоў. Іх творчасць не застыла і не ахаладнела, яны не

П. Панчанкі «Снежань», А. Пысіна «Да людзей ідучы», у якіх таленавітасць арганічна спалучалася з жыццёвай мудрасцю, вопытам. З'яўленне гэтых і іншых цікавых кніг гаворыць аб тым, што наша паэзія развіваецца ў цэлым плённа, у нечым — перш за ўсё ў паказе свету ідэйна-маральных каштоўнасцей сучаснага чалавека — паспяхова спаборнічаючы з іншымі літаратурнымі жанрамі.

2. Сёння ў нашай паэзіі працуюць плённа прадстаўнікі розных літаратурных пакаленняў. Колькі знаходзім новых і новых імёнаў: Я. Янішчыц, Н. Тулупава, В. Коўтун, Н. Шклярава, В. Іпатава, Г. Карпава, Г. Каржанеўская, Л. Забалоцкая, Л. Дайнека, К. Камейша, Ю. Голуб, Я. Верабей, І. Арабейка, У. Скарынкін, У. Дзюба, А. Разанаў, У. Фамін, Г. Казак (усіх проста немагчыма пералічыць) — генерацыя паэтаў апошняга прызыву. Умоўна іх можна назваць пакаленнем 70-х гадоў, нягледзячы на тое, што многія пачыналі ў канцы 60-х і нават раней.

І здаецца: ці даўно сваёй тэмай «абпаленага вайной дзяцінства» дэбютаваў Р. Барадулін і яго равеснікі, а сёння іх ужо няёмка зваць маладымі — сталыя! Іх поспех у многім быў абумоўлены тым, што яны звярнуліся да таго новага, што несла ў сабе жыццё, што з'явілася вынікам стваральнай дзейнасці савецкага чалавека. Паэтычнае натхненне чэрпалася ў прозе працоўных будняў.

Цяперашнія маладыя многім нагадваюць сваіх папярэднікаў, але іх творчы і грамадскі рост ідзе марудней, і кнігі пакуль што не такія яркія, самастойныя і арыгінальныя. Я не ўзяўся б, скажам, сцвярджаць, што паэтычнае пакаленне 70-х гадоў прынесла з сабой новы тып лірычнага героя, хоць нейкія адценні, відаць, з'явіліся. Самыя першыя, элементарныя паняцці: вернасць, любоў да роднага кутка, асабістая чэснасць, спагадлівасць — абавязковыя ўмовы, каб быць чалавекам. Але недастатковыя для паэта. Яму неабходны яшчэ грамадзянскі тэмперамент, прынцыповасць, паслядоўныя перакананні, уменне іх адстойваць.

Трэба сказаць, што пэўная тэматычная вузкасць, недастаткова цесныя кантакты з жыццём і ўласцівая пакуль што многім з маладых слабасць грамадзянскай «маральнай» паэзіі, не пераадоленая да канца інфантыльнасць не садзейнічаюць праясненню характару лірычнага героя і яго ўяўленняў аб жыцці.

Будзем верыць, што такая з'ява часовая, што сувязь з сучаснасцю, з бессмяротнымі традыцыямі Купалы, Коласа, Багдановіча дапамогуць маладой паэзіі пераадолець хваробы росту і выйсці на шырокую дарогу жыцця.

3. Рыхтую кнігу аб сучаснай беларускай паэзіі.

## Генадзь БУРАЎКІН:



1. Мінулы год не назавеш бедным на паэтычныя кнігі. Парадавалі перш за ўсё старэйшыны. Яшчэ адну грань свайго выдатнага таленту раскрыў Аркадзь Куляшоў — паэма «Далёка да акіяна», на першы погляд, «непрывычная» для яго і сваім «раманным», аб'ектывізаваным характарам, і ўвагай да быту, спакойнай «заземленасцю». Але яна, безумоўна, прыкметная з'ява ў нашай літаратуры, і дзіўна, што крытыкі не сабраліся да гэтага часу сур'ёзна і грунтоўна прааналізаваць яе. Да глыбіні душы кранулі мяне лепшыя старонкі зборніка Петруся Броўкі «Калі ласка», кранулі роздумам, непасрэднасцю пачуцця і маладосцю душы. Надзвычайная паэтычнасць, яркая метафарычнасць, шырыня погляду на сучасны свет зачаравалі мяне ў кнізе Максіма Танка «Хай будзе святло», нягледзячы на тое, што я не вялікі прыхільнік верлібру. Адбылася і чаканая, радасная сустрэча з тэмпераментнай, звонкай песняй Пімена Панчанкі («Снежань»), якую я так люблю. Шкада толькі, што ў кніжцы чамусьці не аказался некалькіх выдатных вершаў, якія ўзрушылі сэрца ў часопісных публікацыях... Да з'яў года трэба аднесці і новы зборнік Аляксея Пысіна («Да людзей ідучы»), паэта надзвычай арганічнага і яркага, усё яшчэ, на мой погляд, недаацэненага... Шкада, што малавата выступалі мае равеснікі— учарашнія «маладыя». Апошнім часам слова іх узмужнела, і без іх кніг паэтычны год здаецца недастаткова шматгранным.

2. Робіцца модай лаяць самых маладзейшых нашых таварышаў за інертнасць, марудны рост, «сярэднеарыфметычнасць». Падставы для гэтага ёсць, але вывады бываюць залішне катэгарычныя. Сярод па-сапраўднаму маладых паэтычных талентаў ёсць людзі, на якіх можна спадзявацца, ад якіх можна патрабаваць, творам якіх можна радавацца. Назаву толькі два прозвішчы — Голуб і Басуматрава. Вельмі розныя паэты, але ж, бясспрэчна, таленавітыя. Святлана Басуматрава выступае з вершамі, пазначанымі і сталым роздумам, і сталым майстэрствам. А з якой фантазіяй і бляскам піша Юрка Голуб! Вось бы яму яшчэ сур'ёзнасці і большай глыбіні... Веру, што яны спраўдзяць вялікія надзеі. Ды і побач з імі і за іх спіной не пуста...

3. Патроху пішу вершы, хачу сёлета здаць у друк новую кніжку. Зараз, у прыватнасці, працую над невялічкай паэмкай, ці, можа, дакладней — нізкай вершаў, пра Эрнеста Чэ Гевару.

## Ніл ГІЛЕВІЧ:



1. Можа каго-небудзь і задавальняе і нават радуе сённяшні дзень нашай паэзіі, але мяне больш трывожыць і засмучае. Занадта многа друкуецца ў нас вершаў і нават цэлых зборнікаў — далёка, мякка кажучы, неабавязковых. Не ў шчырым натхненні, не ў глыбокіх роздумах і перажываннях нараджаецца гэтая вершападобная прадукцыя. Чытаеш — і кожны раз неадчэпна паўстае пытанне: а навошта і для чаго гэта напісана? У якой душы гэта можа знайсці водгук? У чыім сэрцы гэта можа выклікаць суперажыванне? Як можна з такім прымітывам, з такой пустэчай падступаць да свайго сучасніка і спадзявацца на яго ўвагу? Я гавару не пра творчыя няўдачы, ад якіх ніхто не застрахаваны і якія вялікай бядой у паэзіі ніколі не былі. Асобныя няўдачы не ўтварылі б таго «шэрага патоку», што разліўся на старонках кніг і перыядычных выданняў. Крытыкі, трэба спадзявацца, пакажуць прычыны гэтай з'явы, раскрыюць іх грунтоўна і ўсебакова. Я ж толькі хачу сказаць, не баючыся перабольшання, што безадказнасць за сваю работу над словам і злоўжыванне правам пісаць і друкаваць набылі ў нас маштабы пагражальныя.

Але мая трывога і клопат не азначаюць, што я не бачу сур'ёзнай і самаадданай працы многіх нашых таленавітых паэтаў. Сапраўдную радасць перажыў я, чытаючы новыя зборнікі Максіма Танка «Хай будзе святло», Аляксея Пысіна «Да людзей ідучы», Генадзя Бураўкіна «Жніво», Васіля Зуёнка «Сяліба», Дануты Бічэль-Загнетавай «Доля», а таксама часопісныя падборкі вершаў Петруся Макаля, Янкі Сіпакова, Анатоля Вярцінскага. Асобна хачу назваць зборнік «Снежань» Пімена Панчанкі — паэта, які сваёй чалавечай шчырасцю і грамадзянскай мужнасцю заўсёды рабіў на мяне незвычайнае ўражанне і асабліва блізка дападаў да душы.

2. У паэзію ідзе моладзі многа — і гэта радасна. Але вельмі хочацца, каб яна яшчэ на першых кроках зразумела, што да паэтычнай работы трэба ставіцца з выключнай сур'ёзнасцю. А пра якую ж сур'ёзнасць можна гаварыць, калі многія маладыя (ды ўжо і не вельмі маладыя) гадамі друкуюць вершы, у якіх публічна засведчваюць сваю элементарную непісьменнасць — і сэнсавую, і стылістычную, і сінтаксічную, і якую хочаце. Некалі Максім Горкі настойліва заклікаў маладых вучыцца майстэрству валодання словам у народа — у яго вусна-паэтычнай творчасці. Думаю, што гэты горкаўскі запавет варта напамінаць творчай моладзі часцей.

З самых маладых, што яшчэ не маюць першых зборнікаў, на мой погляд, добрыя надзеі падаюць Галіна Каржанеўская, Віктар Ярац, Люба Тарасюк. Несумненна, такіх імён больш, — проста ўсіх адразу не згадаеш.

3. Самыя запаветныя творчыя планы раскрываць баюся — тое, што вельмі хачу здзейсніць, хай здзяйсняецца без папярэдніх абвестак,—веру, што так лепш. А чым магу падзяліцца — яно датычыць перш за ўсё маёй навуковай работы ва ўніверсітэце; рыхтую да выдання вялікі том беларускіх народных песень, сабраных студэнтамі філфака, і пішу невялікую кнігу аб некаторых асаблівасцях паэтыкі беларускай народнай лірыкі. У бліжэйшай перспектыве мяркую прыступіць да завяршэння работы над зборнікам перакладаў класічнай і сучаснай славенскай паэзіі «Маці мая, Славенія».

---

здаюцца ні стомленасці, ні бязвольнасці.

Шматгалосым рэхам поўніць чытацкія душы паэзія Танка. Ёй уласцівы шырыня пачуцця і свабодны ход думкі, эмацыянальны размах, адкрыццё высокага зместу простай штодзённай працы, трансфармацыя жыцця шматмернай мастацкай умоўнасцю, парадаксальныя зближэнні простага і складанага, звычайнага і выключнага, неабавязковага з неабходным. Кожны раз Танк, здаецца, нібы наноў правярае мэтазгоднасць быцця і праўдзейнасць паэзіі ў сучасным неспакойным свеце. І колькі мудрасці, хітрынкі і шчырага, непасрэднага пачуцця ў паэтавых узлётах, у яго небяспечнай (не абыходзіцца і без зрываў) хадзе па вяршынях, у «нялёгкай вернасці сваёй зямлі і песні», колькі паэтычнай акрыленасці ў змаганні з самым непаэтычным, колькі прачуласці ў разуменні жыцця і паэзіі, у разуменні важкасці і важнасці лірычнай споведзі.

А побач з паэзіяй Танка — мужная паэзія Броўкі, у якой свой духоўны клімат, свае праекцыі жыцця на лёс, духоўнага вопыту на паэтычнае майстэрства, свая душэўная настроенасць. Духоўна-маральныя асновы яго светапогляду трывала абапіраюцца на бацькоўскія запаветы, адданасць роднай зямлі, на ўрокі жыцця і сталення, абумоўленыя развіццём грамадства, якому свецяць «Кастрычніка агні».

Выдатны прыклад унутранай паслядоўнасці і мастацкай сабранасці, адзінства жыццёвага вопыту і мастацкага светапогляду, арганічнай суаднесенасці жыццёвых і творчых ісцін, прыватных настрояў і таго абагуленага перажывання, у якое месцяцца, кажучы словамі А. Твардоўскага, «все дни и дали», дае нам паэзія Куляшова. Паэтава душа бярэ сёння духоўныя вышыні філасофскага шматабдымнага асэнсавання сучаснасці, яе вызначальных гістарычных і сацыяльна-палітычных вектараў, яе новых пrasторава-часавых уяўленняў і гуманістычных перспектыў.

Толькі ў апошні час у выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачылі свет такія кнігі паэзіі, як «Калі ласка» П. Броўкі, «Хай будзе святло» М. Танка, «Снежань» П. Панчанкі, «Да людзей ідучы» А. Пысіна, «Мая Бесядзь» А. Куляшова... Не, гэта— сапраўдная паэзія, **сучасная** паэзія па ўзроўні чалавеказнаўства, па характары светаадчування, па ўнутранай складанасці, па гуманістычнаму патэнцыялу. Нават пры тым, што ў кожнага з гэтых паэтаў мы заўважаем і моманты супынку, неадоленых творчых перашкод, мы ўсё ж маем цвёрдыя падставы сцвярджаць, што наша паэзія дасягнула высокай стадыі творчага сінтэзу, асаблівай сацыяльна-гістарычнай і ідэйна-мастацкай спеласці ў выяўленні дачыненняў асобы і грамадства, у раскрыцці ўнутранага жыцця чалавека, у з'яднанні асобных участкаў жыцця з агульнай карцінай сучаснага свету.

Агульнае, што аб'ядноўвае лепшыя творы нашай паэзіі, вызначаецца не толькі пачуццём маральнай і грамадзянскай адказнасці, але і якасна новымі гранямі ў дачыненнях са светам, новым — адпаведна ўзроўню сучасных сацыяльна-гістарычных і навуковых ведаў—вытлумачэннем грамадскага развіцця. Змяняецца само разуменне і адчуванне сучаснасці — усё мацнее і паглыбляецца адчуванне яе гістарычнай значнасці ў ланцугу пераемнасці набыткаў матэрыяльнай і духоўнай культуры чалавецтва, глыбокае перажыванне сённяшняга дня атрымлівае перспектыўныя праекцыі на прошласць і будучыню. Сувязь часоў і пакаленняў, асабістых лёсаў і агульных кірункаў грамадскага развіцця — усё гэта стала неад'емнай рысай унутранага свету лепшых нашых паэтаў, усё гэта надае іх творчасці паўнату і аб'ёмнасць, шматграннасць у падыходзе да жыцця і чалавека, у аналізе грамадскага развіцця. У сённяшнім свеце чалавеку, калі ён хоча заставацца чалавекам і дбае аб будучыні, даводзіцца перад тварам пагрозы татальнага вынішчэння, перад тварам імперыялістычнага дзікунства і ўзброенага сучаснымі навукова-тэхнічнымі дасягненнямі ваяўнічага цемрашальства, — несці нялёгкую ношу абавязкаў перад сабой і людзьмі, радзімай і чалавецтвам, перад мацяркамі і дзецьмі, продкамі і нашчадкамі. Ніякай няпамятлівасці, ніякай самаізаляцыі!

**Няма шляхоў да самазахавання,**
**Няма дарог да светазабыцця**
**У час ліхі ўзаемапалявання**
**Сіл супрацьлеглых: смерці і жыцця.**
(А. Куляшоў).

Адчуванне часу набывае ў сучаснай паэзіі (як і ў самім быцці) асаблівую значнасць і ўнутраную напоўненасць. Рух часу перажываецца не толькі суадпаведна ўласнаму жыццёваму лёсу, а ў «шчыльным» і «непарыўным» духоўным адзінстве, калі ў напружанай свядомасці сыходзяцца разам і «векавыя нетры», і будучыня «без войнаў, рабства і багоў» (А. Куляшоў), і момант асабістага быцця на свеце з хуткаплынным часам ад юнацтва да самай высокай сталасці, і шырокае сацыяльна-грамадскае быццё.

Ёсць нямала вершаваных твораў, якія дасягаюць лакальнага, выпадковага судакранання з чытачом, але сапраўдны ўдзел паэтычнай творчасці ў выяўленні і фармаванні сучаснай свядомасці адбываецца тады, калі паэтычная гармонія і жыццёва-мастацкая праўда прысутнічаюць у ёй не ў якасці прыватнага жыццёвага моманту, а як вынік мэтанакіраванага, сацыяльна і мастацка ўсвядомленага духоўнага пошуку, што сутнасць і каштоўнасць асобнага імгнення суадносіць з «агулам» усяго жыцця.

Перспектыўную рэалізацыю гэтай высновы мы бачым і ў творчай працы паэтаў таго пакалення, да якога належаць Е. Лось, Н. Гілевіч, С. Гаўрусёў, Р. Барадулін, П. Макаль, А. Вярцінскі, У. Караткевіч, Г. Бураўкін, Я. Сіпакоў, Ю. Свірка, М. Арочка, Д. Бічэль-Загнетава... У іх творах увасоблены не толькі жыццёвы вопыт пакалення, але нярэдка дасягаецца і тая духоўна-паэтычная маштабнасць, калі сказанае, выяўленае ў слове становіцца шырэй уласна-біяграфічнага, разгортваецца як духоўны вынік агульнаграмадскіх шуканняў.

Вельмі істотна ўплывае на ідэйна-мастацкі ўзровень сучаснай паэзіі, падмацоўваючы яе гуманістычныя пазіцыі і зберагаючы ад хістанняў і відавочных правалаў, усталяваная ў ёй нарэшце арганічная пераемнасць мастацкай спадчыны, па-сапраўднаму дасягнутая даступнасць для чытачоў усіх творчых набыткаў нашай паэзіі.

За спіною сучаснага беларускага паэта выразна адчуваецца подых папярэднікаў, здабытыя імі ўрокі служэння народу, — увесь вопыт нацыянальнай паэзіі.

●

Даследчая і крытычна-папулярызатарская работа ў нашай літаратуры становіцца ўсё болей неабходнай і разгортваецца ўсё больш паспяхова.

Мы гэта адчулі, можа быць, асабліва востра, калі ў рэспубліцы стала выходзіць папулярная серыя «Бібліятэка беларускай паэзіі». Да гэтай серыі ў нас, па сутнасці, не было сістэматызаваных шматтомных выданняў паэтычнай спадчыны. Трохтомная «Анталогія беларускай паэзіі», выдадзеная болей за дзесяць гадоў назад, не магла ахапіць усе рэальныя багацці беларускай паэзіі.

Такая справа па сіле толькі шматтомнаму і на шмат гадоў разлічанаму серыйнаму выданню. Ім і стала «Бібліятэка беларускай паэзіі», выпуск якой распачало ў 1967 годзе выдавецтва «Беларусь» і якую працягвае сёння выдавецтва «Мастацкая літаратура». «Бібліятэка беларускай паэзіі» была задумана і ажыццяўляецца як серыя паэтычных кніжак стабільнага невялікага фармату, арыентаваная на самага шырокага чытача. Яна павінна была прадставіць чытачу ўсіх лепшых беларускіх паэтаў, паказаць іх мастацкія набыткі, акрэсліць іх месца і значэнне ў нашай паэзіі.

Тады, у 1967 годзе, выйшла чатыры кнігі — выбраныя творы Паўлюка Труса, Валянціна Таўлая, Міхася Чарота і Цішкі Гартнага. Сёння ўжо чытачы сапраўды маюць цэлую бібліятэку. На нашы кніжныя паліцы сталі: у 1968 годзе — зборнік «Крывёю сэрца» (творы паэтаў, якія загінулі ў баях Вялікай Айчыннай), выбраныя творы Змітрака Астапенкі, Васіля Віткі, Петруся Макаля, Язэпа Пушчы; у 1969-м — кнігі Генадзя Бураўкіна, Анатоля Вялюгіна, Аляксея Русецкага, Уладзіміра Хадыкі, Юлія Таўбіна; у 1970-м — зборнік «Беларускія народныя песні», кнігі Уладзіміра Дубоўкі, Андрэя Александровіча, Тодара Кляшторнага, Янкі Купалы; у 1971-м — зборнікі Кан-

(Заканчэнне на 15-й стар.)

# ЧАС ПАТРАБУЕ

## З ПЛЕНУМА ПРАЎЛЕННЯ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ БССР

АДБЫЎСЯ III пленум праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР. Пленум абмеркаваў задачы кінематаграфістаў Беларусі, якія вынікаюць з Пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі».

Дакладчык — старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі У. В. Мацвееў сказаў, што ў беларускай кінематаграфіі ёсць рэальныя дасягненні. У лепшых мастацкіх і дакументальных творах адлюстраваны важнейшыя вехі гераічнага шляху рэспублікі, праўдзіва раскрыты веліч барацьбы і здзяйсненняў савецкіх людзей.

І ўсё-такі ўказанне ЦК КПСС, што савецкаму кінематографу не хапае глыбіні ў мастацкім адлюстраванні важнейшых працэсаў сучаснасці, у поўнай меры адносіцца і да беларускага кінематографа. Дзеячы кіно нашай рэспублікі ў апошнія гады яўна паслабілі ўвагу да праблем, якія маюць першаступеннае значэнне. У 1971 годзе тэма сучаснасці ў аб'яднанні мастацкіх фільмаў студыі «Беларусьфільм» была прадстаўлена толькі карцінай «Харошы хлопец», у 1972 — фільмамі «Залаты ганак» і «Хроніка ночы», у 1973 — карцінамі «Воблакі», «Цешча» і «Вялікі трамплін». Такім чынам, зрух у галіне паказу сучаснасці нібыта ёсць: ад аднаго фільма ў год да трох. Але гэта толькі статыстыка. Па сутнасці ж, у мастацкіх фільмах, выпушчаных студыяй у апошнія два-тры гады, жыццё рабочага класа, сялянства, навуковай інтэлігенцыі не атрымалі належнага адлюстравання.

Нам нельга, гаворыць дакладчык, мірыцца з творамі, дзе наш час — бурлівы, напружаны, духоўна насычаны, як і людзі, што паводле задумы аўтараў, з'яўляюцца героямі часу, выглядаюць шэра і сумна, з творамі, якія не раскрываюць істотных працэсаў жыцця. Няма яснай, адточанай думкі, глыбокага, ёмістага мастацкага вобраза — і фільм не ўздымаецца да вышыні ідэйных абагульненняў, мастацкага роздуму. Як справядліва адзначыў таварыш Л. І. Брэжнеў, чым цясней сувязь мастака з усім шматгранным жыццём савецкага народа, тым больш верны шлях да творчых дасягненняў і ўдач.

Сапраўднае наватарства ў кінамастацтве, як і ва ўсіх іншых мастацтвах, пачынаецца з глыбокага пранікнення ў жыццё, з адкрыцця характараў. Толькі глыбінёй, вернасцю жыццёвай праўдзе вымяраецца ўзровень роздуму мастака аб жыцці.

Пастанова ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі» справядліва ўказвае, што «на экране рэдка з'яўляюцца героі, якія захаплялі б цэласнасцю характару, чалавечай прывабнасцю, адданасцю камуністычным ідэалам». А глядач чакае сустрэчы менавіта з такімі героямі.

На жаль, і ў сучасным беларускім кінамастацтве яшчэ няма героя, які б стаў уладаром дум, які не адной нейкай рысай, не асобнай гранню характару, а ўсім зместам выдатнай асобы поўна і ўсебакова адлюстроўваў бы дух часу, тыповыя рысы чалавека нашай эпохі. Праблема героя, праблема стварэння мастацкага вобраза, які стаў бы ўпоравень з яго прататыпам, з рэальна дзеючым савецкім чалавекам, павінна стаць сёння галоўным клопатам нашага кінематографа.

Кожны, хто мае дачыненне да мастацтва кіно, не можа не ўяўляць сабе, якая велізарная адказнасць ляжыць на мастаку, творы якога выходзяць на самую масавую аўдыторыю. Вось красамоўная статыстыка. У нашай рэспубліцы дзейнічае цяпер каля 10 тысяч кінаўстановак. У кінатэатрах, клубах, дамах культуры і іншых глядзельных залах адначасова можна размясціць 603 тысячы чалавек. Некаторыя беларускія кінакарціны паглядзелі 35 мільёнаў чалавек.

Прамоўца прыгадвае выказванне аднаго выдатнага сучаснага мастака: «Калі вас спытаюць, ці камуністы вы, добра было б, каб вы маглі ў пацвярджэнне прад'явіць, як партыйныя білеты, вашы карціны».

Асэнсаванне і мастацкае адлюстраванне практыкі сацыялістычнага і камуністычнага будаўніцтва павінна стаць арганічнай асаблівасцю нашага кінематографа, і кожны работнік беларускага кіно, калі ён правільна разумее свой абавязак перад партыяй і народам, не можа жыць па-за іх інтарэсамі. Жыццю сучаснага чалавека, насычанаму і складанаму, павінны быць аддадзены ўвага і любоў беларускіх кінематаграфістаў, іх творчая палітра, якая ўключае і філасофскі драматызм, і шырокую эпічнасць, і тонкую лірыку, і глыбокае псіхалагічнае даследаванне.

Зразумела, калі мы гаворым аб вырашэнні сучаснай тэмы ў кінематографе, не трэба забываць пра тое, што ў нас існуе даволі распаўсюджаная тэндэнцыя вырашэння гэтай важнейшай тэмы на калізіях і сітуацыях дробных, нязначных, нярэдка проста абывацельскіх. У пошуках найбольш лёгкіх шляхоў вырашэння сучаснай тэмы на матэрыяле жыцця рабочых або сучаснай вёскі некаторыя сцэнарысты і рэжысёры аснашчаюць свае «вытворчыя» фільмы славутым любоўным трохкутнікам, або нечым падобным. У выніку ўся сутнасць такога фільма зводзіцца да любоўных перыпетый. Прыкладам такога падыходу да вырашэння тэмы сучаснасці могуць служыць карціны «Дзесятая частка шляху», «Неспадзяванае каханне» і «Залаты ганак», дзе адчуваецца легкадумнасць аўтарскага мыслення, няўменне драматургічна асэнсаваць складаны і цікавы жыццёвы матэрыял.

Асноўная прычына слабасці нашага сцэнарнага звяна, на думку дакладчыка, заключаецца ў тым, што вельмі абмежаванае кола людзей выступае аўтарамі, што няма яшчэ сталай творчай сувязі студыі з пісьменніцкай арганізацыяй, з журналістамі рэспублікі.

Не варта наогул абясцэньваць дзейнасць членаў сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі студыі: па-свойму кожны з членаў калегіі старанна працаваў над тым, што яму даручалася. Але само становішча калегіі на студыі, адносіны да кінадраматургіі з боку Саюза кінематаграфістаў БССР былі неапраўдана прыніжанымі. Здаралася, яны толькі «дацягвалі» і «праштурхоўвалі» рамесніцкія вырабы.

Прыняты захады, каб рэарганізаваць структуру сцэнарнай калегіі. Асноўным звяном яе становіцца сектар, увага якога канцэнтруецца на самых важных тэмах. Такіх сектараў будзе пяць: сучаснай тэматыкі; гісторыка-рэвалюцыйнай і ваенна-патрыятычнай; дзіцячых, спартыўных і мультыплікацыйных фільмаў; музычных і камедыйных фільмаў; хранікальна - дакументальных і навукова - папулярных фільмаў. Пры сцэнарна - рэдакцыйнай калегіі ствараецца сцэнарная майстэрня; тут пад кіраўніцтвам вопытнага сцэнарыста будзе працаваць група кінадраматургаў.

Меры, якія прымаюцца цяпер па рэарганізацыі і ўмацаванню сцэнарна - рэдакцыйнай калегіі, могуць быць эфектыўнымі толькі ў комплексе з іншымі мерапрыемствамі. У гэтым напрамку надзвычай эфектыўным можа быць стварэнне такога ідэйна - эстэтычнага цэнтра, які акумуляваў бы ў сабе лепшыя творчыя сілы, актыўна ўздзейнічаў на творчы працэс, фарміруючы і накіроўваючы яго ў рэчышча тых адказных задач, што выцякаюць з Пастановы ЦК КПСС. Такім цэнтрам павінен стаць аб'яднаны мастацкі савет студыі, у які ўвойдуць лепшыя творчыя сілы аб'яднанняў мастацкіх фільмаў і фільмаў для тэлебачання.

Вельмі перспектыўнымі ўяўляюцца штогадовыя агляды кінафільмаў нашай студыі. Першы такі агляд адбудзецца сёлета ў красавіку. Будзе прагледжана ўся, без выключэння, прадукцыя студыі. Дакладчык падкрэсліў: не лепшая, а ўся прадукцыя. Будуць ацэньвацца фільмы не ў цэлым, а ўклад канкрэтных работнікаў, і не толькі рэжысёраў, сцэнарыстаў, аператараў, мастакоў - пастаноўшчыкаў, як гэта звычайна бывае на фестывалях, але і гукааператараў, мастакоў па касцюмах і па грыму, аўтараў дыктарскага тэксту, другіх рэжысёраў, мантажораў.

Спадзяёмся, што гэта ў значнай меры будзе садзейнічаць развіццю сацыялістычнага спаборніцтва сярод работнікаў студыі і росту іх прафесійнага майстэрства.

Па свайму ўзроўню прафесійнай падрыхтоўкі калектыў аб'яднання «Летапіс» з'яўляецца адным з лепшых у краіне. Гэта таму, што тут адчуваецца імкненне вопытных майстроў і творчай моладзі адлюстроўваць на экране надзённыя праблемы сучаснасці. Праўда, сустракаюцца і стужкі, дзе ўвага аддаецца сенсацыйнасці, фармальным шуканням. Такім чынам, і «Летапісу» нельга спачываць на лаўрах...

Мастацкі і дакументальны кінематограф, на жаль, не адчувае належнай увагі крытыкі. Далёка не ўсе фільмы і творчыя праблемы разглядаюцца ў друку і на абмеркаваннях творчых секцый Саюза кінематаграфістаў БССР. Мікрарэцэнзія — жанр, якому аддаецца так многа ўвагі, справа карысная. Але куды больш карысці мастацтву прыносіць прынцыповая, дасведчаная, ясная ідэйна-мэтанакіраваная крытыка. Хай яна будзе добразычлівай, але і баявітай!

Дакладчык падрабязна расказаў аб той значнай рабоце, якую праводзіць рэспубліканскае аддзяленне Бюро прапаганды савецкага кінамастацтва па абмену вопытам работы, арганізацыі творчых сустрэч, дыскусій, кансультацый і г. д. Гэтую дзейнасць трэба ўзняць на новую ступень, зыходзячы з указанняў Пастановы ЦК КПСС.

Творчай лабараторыяй нашых кінематаграфістаў павінны быць не толькі павільёны кінастудыі і здымачныя пляцоўкі, але і жыццё ў шырокім сэнсе слова, г. зн. завод, будоўля, вёска. Той, хто спыніцца ў працэсе пазнання жыцця, абмяжуецца запасам накопленых назіранняў, ведаў, вопыту, рызыкуе безнадзейна адстаць ад часу і не знайсці кантакту з тымі, да каго звернута яго творчасць.

У заключэнне У. В. Мацвееў сказаў, што жыццё патрабуе энергічнага і дзейснага ўдзелу работнікаў кінамастацтва ў справах і клопатах народа, натхнёнага, яркага кінарасказу аб нашым часе, аб поспехах камуністычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Мы павінны прыкласці ўсе сілы да таго, каб ствараць такія творы аб людзях нашага часу, аб нашай эпосе, якія сталі б неад'емнай часткай духоўнага жыцця савецкіх людзей.

Выступаючы ў спрэчках, галоўны рэдактар сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі студыі «Беларусьфільм» А. Асіпенка гаварыў пра садружнасць кінадраматургаў і рэжысёраў. Ён прыгадаў, што сцэнарый — гэта перш за ўсё літаратура. З яе, літаратуры, пачынаецца кіно. На жаль, тыя сцэнарыі, якія паступілі ў партфель студыі, не адпавядаюць сучасным ідэйна-эстэтычным патрабаванням. Не выпадкова сцэнарыі не прымаюцца часопісамі да друку — іх літаратурны ўзровень вельмі нізкі.

Шкада, што многія рэжысёры да гэтага часу лічаць сцэнарый толькі «сыравінай», «адпраўным пунктам» для будучага фільма і не аддаюць рабоце з аўтарам належнай увагі. Удзельнікі семінара сцэнарыстаў, які нядаўна праводзіў Саюз кінематаграфістаў Беларусі, бачылі адзінага рэжысёра — І. Дабралюбава. А дзе былі астатнія? Супрацоўніцтва паміж сцэнарыстам і рэжысёрам павінна пачынацца амаль з самай задумы. Каб дамагчыся поспехаў, трэба ўстанавіць цесную сувязь паміж тымі, хто стварае сцэнарыі, і тымі, хто ўвасабляе іх на экране.

Сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР І. Дабралюбаў заклікаў кіраўніцтва студыі праяўляць большы клопат аб маладых рэжысёрах, тых, хто толькі пачынае свой самастойны творчы шлях. Прамоўца падтрымаў рэарганізацыйныя меры, аб якіх гаварылася ў дакладзе, у тым ліку і стварэнне секцыі кінадраматургаў пры Саюзе кінематаграфістаў БССР. Гэта таксама будзе садзейнічаць пашырэнню кола аўтараў і ўмацаванню іх садружнасці з рэжысёрамі.

Аб сцэнарнай праблеме і перабудове работы студыі гаварыў рэжысёр В. Тураў. За пятнаццаць гадоў на «Беларусьфільме» праведзен шэраг рэарганізацый і ўсё з добрым намерам. Але ад сур'ёзных пралікаў у творчасці мы ніяк не можам пазбавіцца. Часта думаеш і здзіўляешся: чаму атрымалася пасрэдная кінастужка? Яна ж ствараласл на вачах шматлікага студыйнага калектыву. Выходзіць, калектыў быў цэлы год староннім назіральнікам, быў абыякавы да таго, што ў вытворчасць пайшоў пасрэдны сцэнарый.

Прамоўца робіць папрок сцэнарна - рэдакцыйнай калегіі. Яна павінна быць звяном сувязі паміж літаратарамі і рэжысёрамі. У свой час на студыі існавала традыцыя сумеснага абмеркавання новых работ усімі здымачнымі групамі, усім калектывам. Цяпер традыцыя знікла. І гэта насцярожвае. Трэба ствараць на студыі атмасферу прынцыповых узаемаадносін, трэба, каб кожны яе работнік лічыў сябе маральна адказным за якасць і ўзровень любой карціны з маркай «Беларусьфільм».

Рэжысёр І. Вейнåровіч прысвяціў выступленне прапагандысцкай ролі дакументальнага фільма. Ён адзначыў, што калектыў аб'яднання «Летапіс» добра ўсведамляе велічныя задачы, якія ставіць перад кінапубліцыстамі Пастанова ЦК КПСС.

Сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР У. Цяслюк зазначыў, што і дакументалісты яшчэ недастаткова глыбока раскрываюць складаны свет чалавечых думак і пачуццяў, не выкарыстоўваюць усяго багацця выяўленчых сродкаў экраннага мастацтва. Некаторыя нашы фільмы не маюць акрэсленай творчай пазіцыі, грашаць ілюстрацыйнасцю. Асноўная бяда ў тым, што рэжысёры - дакументалісты прымаюцца рабіць фільмы па шаблонных сцэнарыях, якія пішуць некваліфікаваныя людзі. За напісанне сцэнарыяў бяруцца ўсе: рэжысёры, аператары, рэдактары. Гэта не садзейнічае прытоку свежых, таленавітых сіл з асяроддзя маладых пісьменнікаў і журналістаў.

Мастацкі кіраўнік вытворчага аб'яднання «Летапіс» Б. Сарахатунаў адзначыў, што ў сучасны момант адбываецца цікавая з'ява — дакументальнае кіно пранікае ў ігравое. Гэта часта дае станоўчы эфект. Адваротны працэс, калі прыёмы мастацкага кіно выкарыстоўваюцца дакументалістамі, апрача шкоды, нічога не прыносіць.

Далей прамоўца выказаў думкі адносна перыядычнай кінахронікі, падкрэсліваючы, што цяпер яна не паспявае за імклівым часам, за падзеямі. Пакуль кіначасопісы здымаюцца і праходзяць апрацоўку ў лабараторыі, адлюстраваны на стужцы матэрыял старэе. Узнікае пытанне: ці мэтазгодна выпускаць такую кінапрадукцыю? Ці не лепш было б перадаць кінахроніку тэлебачанню, як больш аператыўнаму сродку інфармацыі?

Прадстаўнік Беларускага тэлебачання А. Сярбантаў падтрымаў думку аб аператыўнасці хронікі, якая не мае права спазняцца. Ён пералічыў некалькі дакументальных і ігравых стужак, якія створаны або будуць ствараццa калектывам тэлебачання, расказаў аб дзейнасці аб'яднання «Тэлефільм», якое працуе на тэлебачанні.

Аб стане кінакрытыкі гаварыла кандыдат філасофскіх навук Е. Бондарава.

— Я ўпэўнена, што беларускія майстры кіно яшчэ не стварылі вобраза, які мог бы служыць грамадзянскім ідэалам для гледача, ярка і поўна раскрываў бы характар сучасніка. Хто, скажам, герой фільма «Харошы хлопец»? Ды звычайны самазвал, а не чалавек! Ні абаяльныя акцёры Мікалай Алялін, Любоў Румянцава, ні рэжысура не здолелі «дацягнуць» фільм да належнага мастацкага ўзроўню. І такіх прыкладаў, на жаль, нямала.

Гаворачы пра кінакрытыку ў перыядычным друку, Е. Бондарава зрабіла заўвагі і ў адрас штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Адзначыўшы, што газета своечасова змяшчае матэрыялы аб кінамастацтве рэспублікі, прамоўца выказвае пры гэтым прэтэнзіі да ўзроўню некаторых артыкулаў.

Кандыдат мастацтвазнаўства В. Нячай прааналізавала хранікальна - дакументальныя фільмы, створаныя ў аб'яднанні «Летапіс», унесла канкрэтныя прапановы па ўмацаванню практычных сувязей кінавытворчасці з крытычнымі сіламі.

Пленум прыняў пастанову, якая нацэльвае беларускіх кінематаграфістаў на выкананне Пастановы ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі» і прадугледжвае канкрэтныя меры паляпшэння дзейнасці Саюза кінематаграфістаў нашай рэспублікі.

# ЧАЛАВЕК НА ЗЯМЛІ

*«ТАБЛЕТКУ ПАД ЯЗЫК» А. МАКАЁНКА У АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ імя Я. КУПАЛЫ*

Прэм'еру гэтага спектакля чакалі многія. Па-першае, «Трыбунал» і «Зацюканы апостал» Андрэя Макаёнка з трыумфам іграюцца на сцэнах амаль усёй нашай краіны. Яго імя заваявала шырокую папулярнасць. Цяжка прыгадаць яшчэ адзін такі выпадак, каб тэатры адначасова так дружна звярталіся да дзвюх п'ес аднаго драматурга. Па-другое, грамадскасць ведала, што на гэты раз аўтар піша камедыю як бы з падвоеным «прыцэлам» — і для купалаўцаў, і для трупы Маскоўскага тэатра сатыры. І яшчэ — прыцягвае ўвагу жанр новага твора: камедыя-рэпартаж.

Купалаўцы паказалі прэм'еру з невялікім спазненнем — масквічы пазнаёміліся з героямі камедыі «Таблетку пад язык» раней за мінчан. Большасць гледачоў ведала, што рэжысёр В. Плучак і выканаўцы ў Маскве зрабілі яркі спектакль.

А купалаўцы? Цяпер мы маем магчымасць паглядзець, што зрабілі яны.

Хоць у тэксце праграмы слова «рэпартаж» не называецца, на маю думку, рэжысёр Б. Луцэнка і артысты, занятыя ў яго пастаноўцы, помняць і свядома падкрэсліваюць, што іграюць і рэпартаж. Калі хочаце, то нават песня, якую мы чуем на пачатку спектакля («Люблю, мой край, старонку гэту...») пры ўсёй яе эстэтычнай прыгажосці нясе яшчэ і паведамленне аб тэме твора. Так, гаворка пойдзе пра любоў селяніна да зямлі. Не пра абстрактнае пачуццё, а пра тое, як яно жыве сёння, у нашы дні.

Старшыня калгаса «Маяк» Уладзімір Каравай занепакоены. Яго хвалюе тое, што цяпер называюць модным слоўцам «міграцыя» — ад'язджаюць з вёскі ў горад маладыя людзі, так патрэбныя тут, у роднай староньцы.

Ці натуральны гэты працэс? І што трэба рабіць, каб ад'язджалі тыя, каму сапраўды патрэбен горад, а не ўсе, хто бачыць там ззянне вячэрніх агнёў ды розныя выгоды? Гэта трывожыць Каравая. Аб гэтым ён не можа не думаць. І такім гэтага героя паказвае В. Белахвосцік — адданым справе і зямлі, дбайным гаспадаром, вынаходлівым кіраўніком вялікага калектыву працаўнікоў, што носіць імя «Маяк».

**Спрэчка з маладым Іванам Шведам мае для Каравая прынцыповы характар, хоць, на першы погляд, іх размова — гэта толькі абмен рэзкімі рэплікамі. Артыст В. Рыжы добра перадае расплывістасць ідэалаў гэтага хлопца, калі кажа: «Знайду што...» Гэта там, у горадзе, ён будзе шукаць... Што? «Знайду што...» Крыўдна Караваю слухаць гэткае прызнанне. Балюча. Праўда, мы, гледачы, верым В. Белахвосціку больш, чым выканаўцу ролі Шведа. Бо цяжка зразумець Шведа — ці ён вясковы хуліган і абібок, ці сапраўды лічыць сябе здатным на вялікія справы. Калі артыст крычыць, лаецца, жыве, як кажуць у тэатры, «маторнымі» эмоцыямі, то пачынаеш... спачуваць Караваю зусім па іншай прычыне: мо і добра, што такі Ваня Швед пакіне вёску...**

Значна ярчэйшым атрымаўся вобраз Тамары ў новай актрысы трупы купалаўцаў Г. Бальчэўскай. Тамара таксама збіраецца ўпрочкі. Толькі тут выканаўца ролі нясе ўнутраны матыў паводзін. Нездарма яна і прыходзіць да Каравая разам з маткай. Штосьці дарагое пакіне Тамара ў вёсцы. І — вернецца. Абяцае вярнуцца. Ці верым мы ёй разам з Караваем? Не зусім. Бо той час, які патрэбен ёй, каб забыць крыўду, будзе служыць і працаваць не на «вяртанне». У душы Каравая — Белахвосціка з'яўляецца такое падазрэнне і ён... кладзе таблетку пад язык, ён хвалюецца, Уладзімір Андрэевіч, старшыня «Маяка».

Больш пераканальныя словы ён чуе ад Юркі. Гэты хлопец едзе, бо шукае на зямлі месца, «каб ад мяне максімум карысці было». Мабыць, для яго рашэнне пайсці за бацькоўскі парог — вынік роздуму. Гэта — не выпадак, тут больш заканамернасці. Але ўсё роўна Караваю ад такой думкі не лягчэй...

**Калі сочыш за дыспутам Каравая з гэтымі персанажамі, то і адчуваеш, што табе прапануецца як бы дакументальны рэпартаж. У межах гэтага рэжысёрскага плана больш каларытны вобраз атрымліваецца, скажам яшчэ раз, у Г. Бальчэўскай. Эскізна накіданы Швед і Юрка (А. Вавілаў). Выканаўцы ролей юнакоў, відаць, не адчулі, што паводзіны іх персанажаў даюць матэрыял для стварэння п э ў н ы х х а р а к т а р а ў, якія падключаны драматургам да трывог Каравая, а не толькі ілюструюць «тэзісы» галоўнага героя.**

Ярка і па-мастацку настойліва А. Макаёнак (разам з ім і рэжысёр Б. Луцэнка) вядзе размову пра некаторыя моманты арганізацыі працы, гаспадарчых клопатаў старшыні калгаса. Тут аўтар застаецца вострым камедыёграфам, і нам часта прапануюцца завостраныя сатырычныя інтанацыі. Хоць бы тыя ж прылады для заўзятага рыбака, якія Каравай павінен пастаўляць яму, каб гэты рыбак (дырэктар мясакамбіната) быў больш лагодным да «Маяка». Ды і з шэфам «Сельгастэхнікі» Караваю трэба на паляванне хадзіць, каб... «Пікантныя абставіны», — прызнаецца з іранічнай усмешкай герой В. Белахвосціка.

Да творчай удачы спектакля і выканаўцы галоўнай ролі варта аднесці тое, як Каравай, нават калі трапляе ў гэтыя «пікантныя сітуацыі», не губляе аднаго — запаветнага для яго! — пачуцця. Яно перададзена драматургам у эпіграфе да п'есы: «Архіцяжкая справа — любіць чалавека». Гэта — словы У. І. Леніна. І Каравай на купалаўскай сцэне не шукае сабе палёгкі.

**Сюжэтнае развіццё п'есы пабудавана своеасабліва. Нібы мы трапілі да старшыні калгаса і сталі сведкамі яго турбот і спрэчак, яго канфліктаў і перамог. Персанажы, з якімі ён сутыкаецца, даволі стракатыя — ад каларытных да дзяжурных. Напрыклад, да дзяжурных мы аднеслі б Аксану Смятанкіну, якая выглядае знаёмым варыянтам трафарэтна-галаслівых «баб» і ў выкананні Г. Макаравай (актрыса яўна «націскае» на вонкавую характарыстыку). Выклікаюць пярэчанні і асобныя выказванні, так званыя «хлёсткія» рэплікі, разлічаныя на паблажлівы смех не вельмі патрабавальнай часткі публікі. Тое, што даравальна ў лубку, якім быў «Трыбунал», тут, у жанры рэпартажа, гучыць часам празмерна «ў лоб» і грубавата, на мяжы пошласці. Тэатр мог бы даць аўтару парады, як пазбегнуць дакору ў недахопе густу.**

Затое там, дзе Б. Луцэнка імкнуўся да максімальнага праўдападабенства ў раскрыцці жыццёвай рэальнасці нашых дзён і захоўваў дакументальную мастацкую плынь гэтага арыгінальнага твора, у камедыйны пафас спектакля арганічна ўваходзіць публіцыстыка. Мяркуючы па прэм'еры, набліжаюцца да цікавых акцёрскіх работ Г. Аўсянікаў (дзед Цыбулька), П. Дубашынскі (Ломцеў), С. Хацкевіч (Крэндзялеў), У. Кудрэвіч (Скаромны). Мы гаворым — набліжаюцца, бо гэтыя сталыя майстры пакуль што дазваляюць сабе і паўтараць інтанацыі і прыёмы, знаёмыя нам па іх ранейшых ролях у розных спектаклях тэатра.

**Груваcткім выглядае дэкаратыўнае афармленне Б. Герлавана. Ці не замнога дэталей і бутафорыі на сцэне, ці не перашкаджае нам засяродзіцца мноства мэблі і розных экспанатаў? Мне здаецца, што само слова «рэпартаж» дыктуе больш эканомнае размеркаванне сродкаў для абмалёўкі месца дзеяння.**

...Камедыя-рэпартаж знаёміць нас н е з в ы н і к а м, а з п р а ц э с а м абнаўлення вёскі. Таму ў лепшых сцэнах спектакля і няма кропак: рэжысура і выканаўцы як бы запрашаюць нас падумаць аб перажытым і ўбачаным разам з сапраўды таленавітай асобай — Караваем. Яго паэтычная ўлюбёнасць у родную старонку не можа не выклікаць у адказ эмацыянальнай узрушанасці (заўважым толькі: чаму В. Белахвосцік то кульгае на адну нагу, то забываецца на гэта — выпадковы штрых гэта ці пошук вонкавай характарыстыкі?).

Мабыць, і самі купалаўцы добра ведаюць, што і пасля прэм'еры заўсёды адбываецца больш або менш плённы працэс с т а н а ў л е н н я спектакля. «Таблетку пад язык» можна аднесці да тых твораў, для якіх такі працэс заканамерны, бо ў п'есе закладзены некаторыя наватарскія рысы і ёсць нешта традыцыйнае, яна робіць разведку ў жанравых шуканнях. З цягам часу спектакль набудзе большую мастацкую завершанасць. Прынамсі, па тым кантакце з залай, што ўсталёўваецца на прадстаўленнях «Таблеткі...», можна меркаваць, што мы яшчэ пабачым канчатковую рэдакцыю. Магчыма, у ёй будуць выступаць і дублёры асноўных выканаўцаў, якія могуць унесці новыя акцэнты ў гатовае рашэнне. Ужо адно тое, што дзеда Цыбульку па чарзе з Г. Аўсянікавым іграе М. Кармунін, або разам з П. Дубашынскім — Г. Гарбук, а Г. Макараву змяняе М. Зінкевіч, відаць, адаб'ецца на агульным гучанні спектакля.

Ва ўсякім разе на «Таблетку...» глядач ідзе ахвотна. Глядач спачувае, апладзіруе, смяецца. Калі твор на сучасную тэму абуджае такую рэакцыю залы, можна гаварыць пра правільны кірунак работы калектыву і чакаць удасканалення спектакля.

**Юрый СОХАР.**



Ю. Семяняка і салістка тэатра музычнай камедыі Н. Гайда.

# ПАЗНАЁМЦЕСЯ: панна ПАЎЛІНКА

**С**ПАЧАТКУ паслухаем словы кампазітара Юрыя Семянякі:

— Усякая новая спроба паставіць «Паўлінку» можа атрымацца аматарскай, бо народ ведае «Паўлінку» купалаўцаў — з незабыўнымі ў ролях Ржэцкай, Пола, Глебавым, Дзядзюшкам, Платонавым, Кашэльнікавай... Але чым больш я перачытваў п'есу, адкрываючы музыку сказа, мілагучнасць сакавітых рэплік, гучанне слова, тым больш заахвочваў сябе наперад, да народнага гумару!!.

Цяпер мы чакаем аперэту «Паўлінка». Якой яна будзе?

Першая вядомая беларуская аперэта «Залёты», пастаўленая ў 1915 годзе Віленскім музычна-драматычным гуртком, была створана М. Кімант-Яцынай на тэкст В. Дуніна-Марцінкевіча. Гумар і музычнасць дарэвалюцыйных апавяданняў Я. Коласа, камедый і вадэвіляў Я. Купалы і іншых пісьменнікаў даюць багаты матэрыял для лібрэта. Але што ж выбраць з гэтага бязмежнага мора вясёласці, жартаў, падтэксту? Юрыя Семяняку прывабіла самае цікавае і маштабнае — «Паўлінка».

З сярэдневяковых інтэрмедый да сённяшняга дня дайшоў неперайміальны пан Адольф Быкоўскі. Заўсёды дэманстратыўна элегантны і модны, ён здольны забавіць сваёй прэтэнцыёзнасцю любую аўдыторыю на неабмежаваны час. Сам Янка Купала не мог прыпыніць гэтага шарачковага шляхціца, покуль той не праявіць усе свае здольнасці: ад маналогаў пра дасканалую гаспадарку да навачаснейшых скокаў «пад ензык». Гэтак жа ўладна дабіваўся Адольф свайго месца на музычнай сцэне ажно да таго часу, калі Юрый Семяняка даў яму «пшэпустку» на пастаноўку свае новае аперэты.

Сама Паўлінка з'яўляецца на сцэне ў другой карціне і спявае сваю арыю, адкрываючы некаторыя рысы характару. Аднак характар гераіні выяўляецца з дапамогаю розных сродкаў: і ў развіцці драматычнага дзеяння, і ў дыялогах, і ў песнях, і аркестравай музыкай, і харавымі мелодыямі. Працуючы над партытурай, кампазітар скарыстоўвае разнастайныя інтанацыі, каб падкрэсліць багацце натуры гэтай простай сялянскай дзяўчыны, але ў цэлым твор мае быць (па задуме, вядома!) не лірыка-рамантычным, а, хутчэй, больш блізкім да класічнай парыжскай аперэты з яе надзённасцю і вострай сатырычнай накіраванасцю.

**У гэтым сэнсе купалаўскі тэкст дае штуршок і для фантазіі лібрэтыста. І каб завастрыць сацыяльныя матывы, аўтары нанава пішуць першы акт, больш выразна абмалёўваючы вобраз Якіма Сарокі. Якім не проста знешнімі рысамі павінен мець перавагу над панам Быкоўскім. Каханне Паўлінкі мусіць быць абумоўлена мужнасцю, самаахвярнасцю, рэвалюцыйным запалам Якіма. Для яго рэвалюцыйная дзейнасць — глыбока асабістая справа, змаганне з грамадскім злом — унутраная неабходнасць характару. Аркестравая партыя і мужчынскі хор задуманы ў першай карціне як сродак выяўлення гэтага ўнутранага адзінства Якіма і сялянскае масы. І вядома, найбольш яскрава выліваецца настрой і пачуцці хлопца ў яго песні... Глядач, адчуўшы, што Паўлінка не можа аддаць сваю прыхільнасць абы-каму, пранікнецца да яе яшчэ большай сімпатыяй.**

**І сімпатыя да Паўлінкі запраграмавана самым выбарам артысткі на галоўную ролю: салістка Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР Наталля Гайда даказала гэта яшчэ ў аперэце «Пяе «Жаваранак», спяваючы партыю Ірыны.**

**— Магу сказаць нават больш: роля Паўлінкі выпісана знарок для яе, з разлікам на магчымасці Н. Гайды, — кампазітар прызнаецца ў гэтым самай шырокай аўдыторыі.**

Песні і рамансы ў аперэце не проста закончаныя творы, — яны служаць самараскрыццю вобраза Паўлінкі. З гэтаю мэтай аўтары перабралі мноства варыянтаў, каб знайсці патрэбныя тэксты. Але, нарэшце, і паэт і кампазітар пагадзіліся, што Я. Купала найлепш выкажа тое, чым жыве Паўлінка. На гэтую думку навяла амаль забытая кампазітарам яго першая песня на словы Я. Купалы. Менавіта ў паэзіі народнага песняра адшукаліся патрэбныя інтанацыі, нібы знарок створаныя для лірычнай гераіні, імя якой стала назвай камедыі, а цяпер і аперэты. Больш таго, вершы класіка беларускай літаратуры натхнілі кампазітара на развіццё тэмы Якіма, якая вырастае ў магутную песню агульнага хору «Я—мужык...».

Тут заканамерна паўстае пытанне, ці стасуецца такі драматычны матыў да жанру твора? Але купалаўская аснова, сама яго камедыя можа быць вызначана як лірычная драма, дзе, прыкрыты народным гумарам і вонкавай бесклапотнасцю, нарастае канфлікт, які толькі ў кульмінацыйны момант агаляецца настолькі, што глядач бачыць бездань дзявочага гора. А далей перспектыва жыцця без кахання, без мэты зноў прыкрываецца жартамі і спевамі дзейных асоб. Таму, відаць, адно другому не замінае, і гумар можа выступаць як спадарожнік народнага жыцця нават у самых трагічных абставінах.

**— Калі хоць са дзве песні з мае «Паўлінкі» заспяваюць пасля пастаноўкі, я з радасцю вазьмуся за новыя творы, — гаворыць аўтар.**

**Зразумела, прыхільнікі гэтага кампазітара ўпэўнены, што і на гэты раз, працягваючы творчыя шуканні ў галіне музычнай камедыі, Ю. Семяняка скарыстае свой багаты вопыт, які назапашаны ім у самых розных жанрах — масавай песні, оперы, рамансах, інструментальнай музыкі. Ён умее быць адданым самому сабе (яго, бывае, пазнаеш па меладыйнаму малюнку адразу) і нечаканым, «новым». Мабыць, той, хто будзе глядзець і слухаць яго «Паўлінку», адзначыць і гэтыя рысы.**

Цяпер упэўнена можна сказаць, што Юрый Семяняка пры ўсёй яго вынаходлівасці і смелых навацыях з найвялікшай пашанай ставіцца да літаратурнай першакрыніцы, да слова Янкі Купалы, да літары і духу камедыі.

**Ул. ІСКРЫК.**

АКЦЁРЫ І РОЛІ

# МАТЧЫНА ДУША



*НАРОДНАЯ АРТЫСТКА БССР С. СТАНЮТА У СПЕКТАКЛІ «РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО» Я. КУПАЛЫ*

Жанчыну-маці, якая спалучае ў сабе духоўную і фізічную прыгажосць, чысціню, лірычнасць і глыбіню, услаўленую мастакамі Адраджэння, я нечакана ўбачыла на сцэне ў тэатры, які носіць імя Янкі Купалы. Адна з гераінь п'есы — Марыля, жонка Лявона Зябліка, «нараклівая, замучаная жыццём кабеціна». Яна ўвесь час енчыць, глыбока не задумваецца над тым, што ж рабіць далей, праходзіць праз усю п'есу «як бы праз сон».

Марыля ў п'есе здаецца манатоннай. Верыць у тое, што расказвае Сымон пра Зоську, і дачку не пераконвае, а прымушае прысягнуць — «так трэба». Марыля, нібы квактуха, баіцца адпусціць ад сябе Сымона. Яна лічыць, што ўсё марна, што яго пратэст нікому не патрэбен, і ва ўсім ёй мроіцца боская кара...

**Вось сцэна чакання прысуду. У спектаклі рэжысёра Б. Луцэнкі Марыля—Станюта нацягнута, бы струна. Яна ўважліва слухае Старца, хоць і думае пра штосьці сваё. Менавіта праз яе, праз Марылю перадаецца нам прадчуванне чагосьці нядобрага ад гэтага чакання.**

**Прыйшоў старэйшы сын Сымон, а бацькі ўсё няма. Да кожнага шоргату прыслухоўваецца Марыля: ледзь паверне галаву і застыне на якую-небудзь сотую долю секунды, уся аддаючыся гэтаму парыву. Ніводнага лішняга жэсту ці руху. На момант яна — як мадонна беларуская. І зноў напружана слухае старога. Таму ён і гаворыць у асноўным для Марылі.**

А дачка, Зоська, і забылася, што ў бацькі суд сёння. Прыйшла з кветкамі і на нейкі час парушыла цяжкую атмасферу чакання. Яна расказвае маці і бацьку свой сон і тое, што было на самай справе. «Заглядзелася гэтак; аж нехта хапель мяне ў пояс. Я ў крык, гляджу, аж гэта паніч з двара». Як маланка ўдарыла Марылю, толькі вачыма падалася наперад і зноў замерла. Успомніла сваю маладосць і — «Не займайся з ім, дачушка». Колькі пяшчоты і любві да дачкі, трывогі за яе лёс. Магчыма, і з Марыляй такое было.

Расказвае Зоська свой сон, і ўся ў ім жыве Марыля, быццам разам з дачкой ідзе за сонцам. І ў той жа час непакой: «А што з намі будзе...»

Закончыла Зоська расказваць, таўчэ Марыля каноплі ў ступе ў такт музыцы і сама сабе ўсміхаецца: «А, можа, усё абыдзецца».

Дачакаліся Лявона. Прыйшоў. Смяецца, значыць усё добра. І Марыля падтрымлівае яго смех. Але неяк дзіўна муж смяецца. Ніколі яна яго такім не бачыла. Здарылася нешта? Так і ёсць: высяляць будуць. «Вынесуць, як княгіню якую», — гаворыць Лявон жонцы. А яна не княгіня—багіня, народная. І колькі разоў гаварыла Лявону, што нічога ён не даб'ецца. «Ці ж з багатым беднаму судзіцца? Пакуль з багатага пух, з беднага дух». Вось і не засталося ў сям'і нічога, высяляць будуць.

**Але цяпер Марыля Станюты не енчыць. Яна разумее трагічнасць і бязвыхаднасць становішча і намагаецца даказаць Лявону, што адразу трэба было шукаць іншы шлях. Але гэта хутчэй папрок не мужу, а сабе. За тое, што згадзілася з ім. Не вытрымлівае барацьбы і канчае з сабой Лявон Зяблік. А Марыля Станюты змагаецца за жыццё так, як яна лічыць правільным. Яна маці і спрабуе выратаваць сям'ю. Таму загладжвае супярэчнасці паміж дзецьмі, стараецца аб'яднаць процілегласці. У гэтым супярэчнасць самой Марылі.**

Бярэцца за сякеру старэйшы сын Сымон. Але маці не прымае крыві. Яна любіць Сымона, як толькі можа, ганарыцца ім. Нават тым, што ў дзяцінстве адмовіўся ад грудзей (тады Марыля за мамку ў двары засталася).

У маналогу, поўным пяшчоты і сілы, звяртаючыся да сына пасля пахавання бацькі, Марыля запэўнівае Сымона, што не ўсё яшчэ згублена, што ён павінен клапаціцца аб малодшых братах і сёстрах, жыць і шукаць шчасця. Марыля С. Станюты не заклікае да прымірэння з рэчаіснасцю, а шукае выйсце з цяжкага становішча. Як маці, Марыля разумее, што паніч нясе ў іх сям'ю гора, але не хоча верыць словам Сымона на памінках бацькі, што «Зоська бегае да паніча». Ёй неабходна, каб словы Сымона акazаліся няпраўдай. Марыля і Зоську падштурхоўвае на такі адказ. «Ты ў гэтым сама, можа, і не вінаватая», — гаворыць, і сочыць за тварам дачкі. І размову актыўна пачынае маці, плаўна, не адразу падыходзячы да галоўнага. І раптам нечакана прыходзіць рашэнне: калі прысягне Зоська, значыць усё, што казаў Сымон, няпраўда.

Дрыготкімі рукамі, з надзеяй, як апошні і адзіны шанс на выратаванне, падносіць Марыля дачцы абраз. І зноў на імгненне ўсплывае ў памяці маладосць. Любоў, гнеў, горыч у словах маці.

Левай рукой трымае актрыса абраз, а правай быццам вучыць Зоську, складвае пальцы для малітвы. І хоць самыя словы з пагрозай: «А калі я табе вочы выкалю?» — маці хоча ласкай угаварыць дачку адмовіцца ад паніча. Марыля ў С. Станюты не прымушае, а пераконвае Зоську.

**І ўжо ў наступнай сцэне, як ворага, будзе трымаць Марыля абраз, моцячы паніча «не губіць Зоську». (Марыля, якую іграе С. Станюта, можа так трымаць абраз, таму што вера ў бога ў яе традыцыйная, умоўная). А правай рукой, што складвала крыж для малітвы, абдымае боты паніча. Але позна, у бяссіллі апускаюцца рукі разам з іконай... І не з пачуцця прымірэння ўгаворвае яна Сымона пайсці на службу да пана. Угаворвае, але не настойвае. «А што рабіць, жыццё патрабуе, есці ж трэба». Актрыса будуе вобраз так, што сама Марыля ўжо не верыць, што служба — лепшае выйсце. Яна пакутліва шукае адказ на пытанне, што ж рабіць. І Зоську, і Сымона стараецца зберагчы ад няшчасця. Як арліца, гатовая абараняць сваіх дзяцей, яна баіцца згубіць іх. Яна пайшла б за імі, але малых дзяцей кінуць не можа...**

У сваім нарастаючым горы Марыля ў спектаклі ўсё больш і больш камянее, усе яе пачуцці і перажыванні адыходзяць кудысьці ў самую глыбіню душы.

Увесь спектакль жывуць рукі актрысы (у рабоце над ролямі С. Станюта вялікае значэнне надае кожнаму жэсту). І калі, прыкаваная да ложка, Марыля не можа стаць паміж сынам і мужам (абое кідаюцца да сякеры), толькі жэст рукой—спыніцеся! І калі асуджана моліцца ўвесь апошні маналог Лявона. І калі плача над трунай мужа. І калі застывае, «нібы лядзяк», нібы статуя, у апошняй карціне.

Моцнай, не разбітай жыццём, з любоўю да людзей пакідае сцэну Марыля—Станюта, жанчынай-маці, па-зямному трапяткой, беларускай мадоннай.

Актрыса спявае гімн матчынай душы.

**Н. КРЫВАШЭЕВА.**



# ...І — НЕЧАКАНАЯ

Гэта было амаль дзесяць гадоў назад — у выпускных спектаклях Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута звярнула на сябе ўвагу самых патрабавальных экзаменатараў выканаўца роляў Калерыі ў «Дачніках» М. Горкага і Зоські ў «Раскіданым гняздзе» Я. Купалы. Калі гледачы звярталіся да юных суседзяў, чулі імя: «Тоня Бендава...»

Потым гэтае імя было пазначана на афішах тэатраў у Магілёве, у Мінску, у Бабруйску, у цітрах фільмаў, знятых на студыях Ленінграда і Мінска («Хлопчыкі і дзяўчынкі», «Праз могілкі», «Вайна пад стрэхамі», «Карпухін» і інш.). І нават тыя, каму даводзілася і даводзіцца сустракаць актрысу ўпершыню, часта бываюць усхваляваны яе шчырасцю і адразу пытаюць: «Хто гэта?» І адказ гучыць той жа, што і ў шэсцьдзесят чацвёртым: «Тоня... Бендава...»

Зразумела, яна не паўтарае сябе. Яна — у станаўленні. Самае дарагое для яе — быць новай у новай ролі. Гартаем рэпертуарны спіс А. Бендавай: «Машачка» А. Афінагенава і «Шануй бацьку свайго» В. Лаўрэнцьева, «Здрада і каханне» Ф. Шылера і «Прыгоды Бураціна» паводле А. Талстога, «Даходнае месца» А. Астроўскага і «Хлопец з нашага горада» К. Сіманава... Бывае, яна іграе маладых жанчын, якія з'яўляюцца яе аднагодкамі. Здараецца, і пакуты і радасці іх у нечым блізкія: пошук свайго месца, барацьба за шчасце, каханне і абавязак. Толькі А. Бендава кожны раз раскрывае непаўторную душу менавіта гэтага чалавека. Не, яна нічога не «дадае» да вобраза, створанага драматургам, ёй даражэй зразумець і паглыбіцца ў напісанае аўтарам, бо актрыса ведае, што мастак не выпадкова даў гераіні такія і такія словы або прымусіў маўчаць. Адшукаць скразную дзею ў часам пакручастых праявах характару — для А. Бендавай самае каштоўнае і захапляючае ў рабоце над роляй.

Цяпер яна выступае ў трупе тэатра драмы і камедыі ў Бабруйску. З яе выхадам на сцэну заўсёды пачынае трымцець своеасаблівая струна — трапяткога пачуцця, чулай увагі да таго, чым жывуць партнёры, паглыблення ў свет гераіні. Тэмпераментная і пластычная, Антаніна Бендава застаецца самай сабой і ў спектаклі «А зоры тут ціхія...», і ў камедыі «Даходнае месца», і ў сучаснай прытчы «Нікнік». Але штосьці няўлоўнае робіць яе гераінь і зусім не падобнымі адна на адну. То яна аддасць перавагу лірычнай споведзі, якая прабіваецца і праз «падтэкст», то з дзіцячым захапленнем пачне містыфікаваць астатніх дзейных асоб, пераапранаючыся і пераўвасабляючыся, то дасць выйсце напружанаму тэмпераменту разумнага сэрца.

Для большасці персанажаў А. Бендавай самае агіднае ў жыцці — фальш і крывадушнасць, а самае высакароднае — духоўная чысціня і гатоўнасць ахвяраваць сабой дзеля шчасця людзей. Гэта крышталізуецца ў мастацтве актрысы як унутраная тэма яе творчасці. І яна гучыць нават у востра камедыйных спектаклях і персанажах («Нікнік», напрыклад), дзе і танец гераіні, здаецца, пра тое самае...

Яна выступае ў трупе маладой, няўрымслівай. Атмасфера ў тэатры такая, што спакою акцёрам не дае. Хаця, дакладней кажучы, Бендава сама з тых, хто ўносіць у жыццё творчага асяроддзя неабходны фермент — шуканняў, паглыблення ў сутнасць з'яў, імкнення адказаць на надзённыя запатрабаванні гледачоў.

**І. СЯЎКО.**

*З ПОШТЫ «ЛіМа»*

# ДЗЯКУЙ, Ларыса Пампееўна!

Вяртаючыся ў Мінск пасля блізкіх і далёкіх канцэртных маршрутаў, заўсёды адчуваеш, што нешта з уражанняў застаецца з табой надоўга. Хачу падзяліцца з чытачамі «Літаратуры і мастацтва» адным такім незабыўным уражаннем.

Мінулым месяцам вялікая артыстычная брыгада з Беларусі наведала сталіцу братняга Азербайджана. Мы ляцелі туды самалётам. І калі пад крылом бліснуў блакіт Каспійскага мора, прыгадаліся радкі Пімена Панчанкі:

> Каспійскае мора!
> Раздольным і сінім
> Прыйшло на спатканне на мне ты.
> Паверыш —
> Калі б ты шумела ў нашай краіне,
> Табе я штодня прысвячаў бы па вершу...

І калі марская стыхія бывае рознай, асабліва ў лютым, то гасціннасць гаспадароў, нашых сяброў і калег, шматлікіх гледачоў была, як і належыць поўдню, гарачай і шчырай. Артысты оперы і балетнага мастацтва, драмы і філармоніі выслухалі шмат узрушаных слоў падзякі за арыгінальныя і змястоўныя канцэрты ад прадстаўнікоў грамадскасці горада на Каспіі.

Своеасаблівым нервам і цэнтрам усёй творчай і арганізацыйнай справы гэтага мерапрыемства была народная артыстка СССР Ларыса Пампееўна Александроўская. Яе густ і высокі артыстызм адчуваўся намі і, адначасова, быў тактоўна прыхаваным. Атрымалася так, што нашы канцэрты, у праграму якіх уваходзілі самыя разнастайныя нумары — ад сцэн з драматычных спектакляў да эстрадных песень, — загадзя ніхто не рэпеціраваў, не «збіваў» у адзінае па ўсіх кампанентах відовішча. Між тым, мы адчувалі руку знаўца мастацтва, вопытнага рэжысёра. Нават чаргаванне цымбальных мелодый з опернымі арыямі і мастацкім словам было, на маю думку, добра ўзважана нашым кіраўніком. І не дзеля прыгожага слова можна назваць выступленні беларускіх артыстаў на бакінскіх сцэнах «народнай сюітай» і «мазаікай узораў прафесійнай творчасці».

Ларыса Пампееўна, як заўсёды бывае, калі чалавек робіць сваю справу па закліку сэрца, выглядала велічнай і прыгожай. Мы ганарыліся тым, што ў нас ёсць актрыса і дзеяч мастацтва такога маштабу. Яна ўсёй душой адчувала ўрачыстасць хвілін, якія адгукаліся ў нашых сэрцах, калі мы стаялі каля Вечнага агню, мемарыяла 26-ці бакінскіх камісараў, дзе леглі і нашы кветкі.

Ларыса Пампееўна ўмее ўносіць у асяроддзе творчых людзей атмасферу таварыскай прыязнасці, падтрымкі, узаемнай павагі. Але і не выпускае з вока любую дробязь, каб не было так званых «накладак».

Як кажуць, «скразной дзеяй» старшыні праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання быў клопат аб тым, каб мастацтва Беларусі раскрылася ва ўсім багацці і харастве, каб яго прадстаўнікі з гонарам пранеслі пад небам Азербайджана званне савецкага артыста.

...Зразумела, кожны з нас — і Ганна Лебедзева, і Галіна Макарава, і Павел Кармунін, і Аркадзь Астрамецкі, і Раіса Красоўская, і Валерый Саркісян, і Лідзія Галушкіна, і многія іншыя — захавае ўражанні ад бакінскіх сустрэч. Вузенькія вулачкі старога горада і карункі нафтавых вышак сярод марскіх хваль, непаўторнай прыгажосці бульвар уздоўж Каспія і новыя кварталы... І людзі — прагныя да хараства мастацтва, чулыя і тонкія аматары песні і слова...

З пачуццём падзякі да харошага чалавека і яркай творчай асобы, да Ларысы Пампееўны, будзем мы ўспамінаць усё тое, што перажылі на гэтым свяце дружбы паміж народамі нашай цудоўнай краіны. Таму з такім трапяткім пачуццём шчырасці хочацца ад імя маіх калег павіншаваць народную артыстку СССР Л. Александроўскую са святам 8 сакавіка — Міжнародным днём жанчын! Дзякуй Вам, Ларыса Пампееўна!

**Мікалай ШЫШКІН,**
заслужаны артыст БССР.

# «ПАХ АГНЮ ПАРАХАВОГА...»

*ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Тодара КЛЯШТОРНАГА*

Тодар Кляшторны апрануў салдацкі шынель у семнаццаць год, калі добраахвотнікам пайшоў у рады Чырвонай Арміі.

**Эскадрон — віхор папах,**
**дзень — трывога, ноч — трывога.**
**Пах жыцця і поля пах,**
**пах агню параховага —**
**у адзін зліліся пах.**

Гэтыя радкі паэта пра суровыя дні грамадзянскай вайны, пра тыя часы, калі «пелі песні крумкачы, салаўі ж тады маўчалі», навеяны франтавой рэчаіснасцю, баявымі паходамі.

Калі ж скончылася вайна і былы воін вярнуўся дадому, у родную вёсачку Парэчча, ён нядоўга заставаўся ў азёрнай Лепельшчыне. Неўзабаве з пуцёўкай камсамола пайшоў ён пехатою ў Оршу, каб вучыцца на рабфаку.

Чыгункі Лепель—Орша тады не было, не было яшчэ заасфальтаваных і шасейных дарог.

**На зары і радасць пунсавее,**
**весялее скрыпак пераліў...**
**Маладосць у казачныя шлеі**
**запрагае сонечныя дні,**

— так думаў будучы рабфакавец, будучы паэт. У Оршы Тодар Кляшторны і надрукаваў свае першыя вершы. Адтуль паехаў у Мінск і паступіў на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака БДУ.

У Мінску ў 1927 годзе выходзіць з друку яго першы зборнік лірычных вершаў «Кляновыя завеі». Паэту пашчасціла. Бывала ж так, што пісьменнік выдаваў некалькі кніг і не меў на іх ніякага водгуку, але на «Кляновыя завеі» толькі ў «Звяздзе» з'явілася ажно дзве рэцэнзіі.

Малады паэт любіў вёску, любіў яе гаі і дубровы, але смела паліў «сметнікі гадоў», «расквечваў зямлю старую», быў з тымі, хто будаваў:

**Магутны мы і лёгкакрылы...**
**За творчасцю імклівіць час,**
**Мы дах сусветны пакарылі**
**Для шчасця нашага, для вас.**

Патрыятычныя матывы ў вершах паэта, яго любоў да Радзімы, партыі, да людзей ззялі колерам вясёлкі, поўніліся водарам вясны.

Жыццё паэта было нялёгкім і кароткім. Нарадзіўся ён 11-га сакавіка 1903 года, памёр 26 лістапада 1938 года. За час свайго жыцця выдаў дзесяць зборнікаў вершаў.

...Ёсць каля Мінска невялікая прыгарадная вёска Шчытомерычы. Тут стаяла калісьці простая сялянская хата маіх бацькоў. Яе спалілі нямецкія фашысты ў першыя дні вайны. У ёй не раз пабывалі мае равеснікі, а таксама маладыя і старэйшыя беларускія пісьменнікі. Пасля такой пабыўкі маці абавязкова ставіла іх кнігі на невялічкую паліцу, размяшчала фотаздымкі за вялікай шкляной рамай. Былі тут Міхась Чарот і Анатоль Вольны, Пятрусь Броўка і Паўлюк Трус, Алесь Звонак і Максім Лужанін, Васіль Каваль і Тодар Кляшторны. Усе глядзелі з картак маладымі вачыма, усе былі у цывільнай вопратцы, хоць некаторыя прайшлі немалы баявы шлях. Толькі Тодар Кляшторны быў у шынялі і будзёнаўцы. Такім я яго сустрэў у пачатку дваццатых гадоў, такім ён мне запамятаўся на ўсё жыццё. У гэтай хаце калісьці ён прачытаў прысутным свае вершы, многія радкі з якіх былі аўтабіяграфічнымі:



**Пад воплескі асеннія**
**Вось там, у тыя дні**
**Мяне па той аселіцы**
**Расстрэлівацъ вялі.**
**Вялі п'яныя ворагі...**
**Вакол варонні баль...**
**Каму ж жыццё не дорага?**
**Кляшторны, стаў на бань!**
**Бяжы! А лес рубінавы**
**Табе падасць руку**
**Пад рогат гільяцінавы,**
**Пад свісты дзініх куль.**

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ.**

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 8—9).

# ПРАД ВЫСОКАЮ КРАСОЮ...

драта Крапівы і Якуба Коласа; у 1972-м — выбраныя творы Янкі Сіпакова, Адама Русака, Алеся Гурло. Выпуск серыі працягваецца. Сёлета ўжо выйшла кніга выбранага «Мая Бесядзь» Аркадзя Куляшова, неўзабаве пабачыць свет «Абеліск» Хведара Жычкі, у бліжэйшых выдавецкіх планах — кнігі Пімена Панчанкі і Анатоля Вярцінскага.

Асобныя кнігі «Бібліятэкі беларускай паэзіі» час ад часу рэцэнзаваліся ў нашым друку. Уся ж «Бібліятэка» у цэлым не разглядалася, як ні дзіўна, зусім. Не было нават ніводнага прадстаўнічага сходу ў Саюзе пісьменнікаў і ў самім выдавецтве, дзе б абмяркоўвалася «Бібліятэка» і праца яе рэдкалегіі (выданне, як і належыць, мае аўтарытэтную рэдкалегію на чале з Піменам Панчанкам), ішла б размова аб перспектывах выдання і бліжэйшых планах, аб прынцыпах адбору тэкстаў, аб якасці тэксталагічнай работы, аб узроўні і вартасцях прадмоў да асобных кніжак. А дарэмна! Акрэслілася ўжо вельмі шырокае поле, наспела багата сур'ёзных праблем. Варта падумаць, як удасканаліць выданне, як узняць яго аўтарытэт, як лепей папулярызаваць і распаўсюджваць яго.

Справа папулярызацыі серыі, па сутнасці, зусім занядбана. Калі «Полымя», «Маладосць», «Неман» і «Літаратура і мастацтва» пры выпадку адгукаюцца на асобныя выпускі «Бібліятэкі», то іншыя масавыя выданні амаль не заўважаюць гэтага выдання, адрасаванага менавіта шырокім колам чытачоў. Маглі б шмат зрабіць радыё і тэлебачанне, можна было б мабілізаваць чытацкую грамадскасць, правесці — з удзелам аўтараў і ўкладальнікаў, членаў рэдкалегіі серыі — цікавыя вечары ў масавых аўдыторыях. Пакуль што гэтага можна толькі жадаць. Сярэдні тыраж серыі — каля 5 тысяч экземпляраў (зборнік Крапівы — 11 тысяч, зборнік Хадыкі—2 тысячы). У супастаўленні з аналагічнай масавай серыяй, якую выпускае ўкраінскае выдавецтва «Радянський письменник», гэта як быццам і няблага (там тыражы прыкладна такія ж), але на самай справе гэткі тыраж не можа нас задаволіць. Асабліва крыўдна, што да гэтага часу на паліцах кнігарань усё яшчэ застаюцца нераскупленымі нават самыя першыя выпускі серыі.

Што дала нам серыя «Бібліятэка беларускай паэзіі», чым узбагаціла? Пры ўсіх выдатках (аб іх яшчэ будзе размова ніжэй) цяжка пераацаніць яе значэнне. Томікі «Бібліятэкі», пастаўшы побач на адной паліцы, неяк пановаму і досыць шырока паказалі ўсю нашу паэзію, самі сабой з'ядналі і суаднеслі творчасць многіх паэтаў — і тых, чыя творчасць ужо завершана, і тых, хто і сёння плённа працуе ў літаратуры. Творчыя кантакты, узаемаўплывы, перайманні акрэсліліся больш выразна, больш паказальна раскрылася, чаго варта спадчына асобных паэтаў. Для некаторых аўтараў — П. Макаля, Г. Бураўкіна, Я. Сіпакова — выданне выбранага ў серыі было выпрабаваннем на сталасць, крытым строгім, бо адразу ставіла іх у гісторыка-літаратурны рад поплеч з многімі майстрамі беларускай паэзіі. Бібліятэка ўзбагаціла нас цудоўнымі зборнікамі «Крывёю сэрца» і «Беларускія народныя песні» — з выдатным падборам тэкстаў і змястоўнымі прадмовамі А. Вялюгіна і А. Ліса. Былі выпадкі, калі выпускі серыі давалі повад для новага крытычнага перачытання спадчыны таго ці іншага паэта, і такое перачытанне было плённым і ўзбагачала нас. Можна нагадаць, як свежа і пранікліва перачытаў кніжку М. Чарота крытык Б. Бур'ян («Полымя», 1970, № 8). Цікавымі былі водгукі П. Макаля (у «Полымі») і Р. Баруты (у «ЛІМе») на зборнік З. Астапенкі. Запомніліся пераканаўчасцю і новым словам пра паэтаў рэцэнзіі ў «ЛІМе» Н. Гілевіча на кнігу В. Віткі і Ф. Яфімава на зборнік В. Таўлая. Засталіся ў памяці прачулыя артыкулы П. Макаля («Полымя»), Г. Бураўкіна («ЛІМ») і Г. Коласа («Неман») пра зборнік «Крывёю сэрца», а таксама змястоўныя нататкі М. Стральцова аб творчасці Ул. Дубоўкі («Неман»), Ю. Свіркі — аб паэзіі Г. Бураўкіна («Полымя»), палемічны артыкул Я. Шпакоўскага аб кніжцы П. Макаля («Неман»).

У гэтых крытычных водгуках вялася размова аб творчасці таго ці іншага аўтара. Толькі аб творчасці. І хіба што ў асобных выпадках мімаходзь рабіліся прыватныя заўвагі аб адборы твораў і некаторых памылках друку. Між тым адбор тэкстаў, дакладнасць публікацыі, датыроўка твораў — усё гэта не дробязі.

Можна спрачацца з укладальнікамі кніг П. Труса, Ул. Хадыкі, М. Чарота і некаторых іншых паэтаў адносна адбору тэкстаў. Мы не знаходзім, напрыклад, у кнізе М. Чарота аднаго з яго лепшых і самых апошніх вершаў, што быў надрукаваны ў «Дні паэзіі—1967», у кнігу Ул. Хадыкі не трапілі вершы, надрукаваныя паэтам пасля выхаду яго апошняга зборніка «Радасны будзень». Праўда, варта адзначыць, што ў зборніках З. Астапенкі, Ю. Таўбіна, Т. Кляшторнага, Ц. Гартнага чытачы могуць пазнаёміцца з тымі творамі гэтых паэтаў, якія раней былі мала вядомы.

Структура некаторых выпускаў не прадумана да канца. Вельмі часта адсутнічаюць даты пад творамі, не вытрымліваецца храналогія, у некаторых лірычных цыклах парушаецца той парадак расстаноўкі твораў, які быў у прыжыццёвым выданні аўтара.

У зборнікі, што выйшлі ў «Бібліятэцы беларускай паэзіі» трапіла вялікая колькасць памылак і недакладнасцей. Відаць, тэксталагічная работа праводзілася не заўсёды ўважліва.

Вось некалькі прыкладаў.

Зборнік Ул. Хадыкі быў, мабыць, складзены на аснове папярэдняга выдання твораў паэта («Выбраныя вершы», 1956), далёка не бездакорнага ў тэксталагічных адносінах. У выніку да ранейшых памылак дадаліся яшчэ і новыя. Нават цяжка пералічыць усе выпадкі адвольных правак, скарачэнняў, пропускаў, тэкставай блытаніны. «Дзве песні» надрукаваны як адзін верш, ад нізкі «На ўзвеях дзён» адарваны і надрукаваны асобна яе пачатак і г. д. Прывяду некаторыя з характэрных скажэнняў тэксту. У зборніку надрукавана: «ў пяшчотах матчыных», а трэба — «у пешчах матчыных», «нязначнай шчырасці» (трэба: «нязнанай шчырасці», стар. 13); «таннее пілíканне» (трэба: «таннае пілíканне»), «дзень ў вятрах алюдзей» (трэба: «алюдзеў», стар. 52); «прарваліся хмары» (трэба: «параваліся хмары», стар. 99); слова «абываталь» (стар. 100) пераведзена ў сучаснае напісанне («абывацель»), аднак гэта слова стаяла ў рыфме да слова «хата». Яшчэ прыклады: «смерць і сон, што жыў у народзе» (трэба: «смерць і' сну», стар. 115); «сталі думкамі на ўзровень усе пачуцці і настроі» (трэба: «сталі з думкамі на ўзровень ўсе пачуцці, ўсе настроі», стар. 123); «жыве і дбае аб адным» (трэба: «жыве і дбанне аб адным», стар. 131); «ты выбіла людзей нямала» (трэба: ты вабіла людзей нямала», стар. 133); «купцястай лапай» (трэба: «кіпцястай лапай», стар. 136). І г. д. і г. д. Скажаецца рыфмоўка (ёю — днее замест «ею — днее»), змяняецца сінтаксіс. Узнікаюць лексічныя загадкі, парушаецца сэнс.

Значна больш уважліва выдадзены вершы Ю. Таўбіна. Выпраўлены нават асобныя памылкі, што былі дапушчаны ў прыжыццёвых выданнях паэта. У параўнанні з папярэднім выданнем (1957) аднаўлены прапушчаныя строфы. Аднак і тут ёсць відавочныя прагляды. Надрукавана, напрыклад: «таямніцы дасюль неразгаданых гадоў», хаця трэба — і рытм гэтага вымагае — «неразгадных» (стар. 34); некалькі разоў не заўважаны рытмічна неабходныя скарачэнні «у»; зноў жа робяцца папраўкі ў словах, што вынесены ў рыфму: сцёк — гарадок (трэба: сток — гарадок, стар. 38), Мінск — сцен (трэба: Менск — сцен, стар. 44). Скажона надрукавана выслоўе Шылера на нямецкай мове (стар. 47). Слова «паэта», так добра вядомае нам усім па славутым купалаўскім «Я не паэта...» усюды заменена на сучаснае «паэт», хаця не ўсюды гэта дазваляў памер.

Не пашанцавала кнізе Т. Кляшторнага. Тут пералік скажэнняў, памылак, не агавораных пропускаў, адвольных правак атрымаўся б даволі значны. Даты пад творамі нідзе не пастаўлены. Фрагменты вялікіх твораў друкуюцца як асобныя закончаныя вершы. (Так, напрыклад, надрукаваны трэці раздзел з «Кляновых завей» — як невялікі самастойны верш).

Нават у зборніку П. Труса раз за разам спатыкаешся на недакладнасцях і друкарскіх памылках, на папраўках, што змяняюць гучанне верша і зацямняюць паэтычную выразнасць радкоў, прыглушаюць рыфму.

Пры зверцы зборніка вершаў Цішкі Гартнага з прыжыццёвымі выданнямі аднаго з пачынальнікаў беларускай савецкай літаратуры таксама заўважаеш істотныя разыходжанні. Хоць укладальнік (С. Александровіч) рупна перабраў спадчыну Гартнага, аднак і ён, як відаць, шмат што не ўгледзеў. Памылкі, прапушчаныя ім, маюць той жа характар, што і ў папярэдніх выпусках.

Усё гэта наводзіць на думку: выдаўцам серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» трэба павысіць патрабаванні да ўкладальнікаў, дамагацца дакладнасці, праводзіць скрупулёзную выверку тэкстаў, асцярожна абыходзіцца з першапачатковым тэкстам. Серыя — не канвеер. Выпуск тэксталагічна выверанага, дбайна складзенага зборніка — справа, якая павінна рабіцца ўдумна, непаспешліва.

Наўрад ці мэтазгодна цвёрда захоўваць нязменны аб'ём серыі. Відаць, у асобных выпадках можна павялічыць кніжку на адзін—два друкаваныя аркушы, бо рамкі серыі занадта абмежаваныя для такіх паэтаў, як Купала, Колас, Куляшоў. Ці не па гэтай жа прычыне надзвычай мала месца аддаецца на прадмовы, хоць прадмовы ў такім выданні іграюць важную ролю. Зусім адсутнічае каментарый да тэкстаў. Самі ж прадмовы нярэдка аказваюцца надзвычай няпоўнымі, пазбаўленымі самых неабходных звестак пра жыццёвы і творчы шлях паэтаў, не даюць больш-менш закончанай характарыстыкі іхніх набыткаў. Кнігі ж сучасных аўтараў суправаджаюцца толькі лаканічнай біябібліяграфічнай даведкай.

Серыя «Бібліятэка беларускай паэзіі» ўяўляе сёння ўжо значны і грунтоўны звод помнікаў нацыянальнай паэтычнай культуры і сучасных дасягненняў нашай паэзіі. Яна верна і добра служыць настаўнікам, студэнтам, вучням і ўсім, хто цікавіцца беларускім паэтычным словам. Гэта абавязвае нас яшчэ болей дбаць аб яе высокай марцы, аб культуры і якасці выдання.

Відаць, наспеў ужо час падумаць і аб больш поўным і шырокім серыйным выданні — накшталт рускай «Библиотеки поэта» і адпаведных ёй кніжных серый на Украіне, у Грузіі і іншых братніх рэспубліках. Усё больш востра адчуваецца неабходнасць менавіта грунтоўнага, навукова-даследчага выдання нашай спадчыны, у якім арыентацыя на шырокага чытача спалучалася б з глыбокім вывучэннем і вытлумачэннем шляхоў развіцця нашай паэзіі, усіх яе багаццяў. У рэспубліцы ёсць кадры кваліфікаваных тэкстолагаў, ёсць добрыя знаўцы і тонкія крытыкі паэзіі, якія маглі б з поспехам ажыццяўляць гэту важную і пачэсную справу. Вырас і чытач. Крытык і паэт Л. Озераў слушна пісаў нядаўна: «Культура сённяшняга чытача вымяраецца не толькі ўменнем чытаць і — далей — пранікаць у тэксты самога паэта, але і знаёмствам з даследчыкамі гэтага аўтара. Чытач сёння ўжо можа выносіць сваё меркаванне аб розных пунктах гледжання крытыкаў на паэта і займаць тую ці іншую пазіцыю ў гэтай спрэчцы».

Новая серыя дапоўніла б сабою «Бібліятэку беларускай паэзіі», ахапіла б усё, што ўяўляе цікавасць для чытача, мае гісторыка-літаратурную і эстэтычную каштоўнасць — ад твораў Скарыны і Гусоўскага да нашых дзён. Хочацца верыць, што такое выданне будзе калі-небудзь распачата.

...Напярэдадні рэспубліканскага пісьменніцкага пленума, прысвечанага пытанням паэзіі, думаецца пра многае. Пра сучасны стан нашай паэзіі і шляхі яе развіцця, пра значэнне паэтычнай спадчыны і кірункі наватарскіх пошукаў нашых паэтаў. На пленуме, трэба меркаваць, будзе весціся шчырая і зацікаўленая размова аб якасці, аб патрабавальнасці, аб грамадзянскай адказнасці паэтычнага слова, аб яго месцы і ролі ў сучасным жыцці. Хай жа гэта размова будзе карыснай і пленнай.




Мал. С. ВОЛКАВА.




Уладзімір ОТЧЫК

## БУРШТЫНАВЫ БРАНЗАЛЕТ

Я і мой цёзка Алесь вельмі ўзрадаваліся, калі разам з жанчынамі напярэдадні 8-га Сакавіка раней адпусцілі з работы і мужчын. Як заўсёды, клопаты пра падарункі мы пакінулі на апошні перадсвяточны дзень, таму адразу ж кінуліся па магазінах.

Але не так проста набыць падарунак, калі ля прылаўкаў сцяною стаяць мужчыны, апанаваныя адною думкаю. І ўсё ж нам пашанцавала: мы прабіліся да прылаўка якраз у той час, калі з вялікай скрыні з надпісам «Бранзалеты бурштынавыя. 1000 штук» прадаўшчыца выцягнула два апошнія і аддала іх нам. Не зважаючы на бурчанне тых, да каго не дайшла чарга, мы з Алесем паімчалі да гравёра, каб зрабіць памятныя надпісы.

А неўзабаве мы ўжо сядзелі ў кафэ «Мінутка». Звычайны час ісці дамоў яшчэ не надышоў, і мы раз-пораз напаўнялі кілішкі бурштынавым пітвом, любуючыся сонечным зззяннем бранзалетаў.

Як мы развіталіся з Алесем — не памятаю, але прачнуўся я... дома, ад плачу. Нада мною стаяла мая Танечка і трымала ў руцэ зіхатлівы бранзалет. Вочы ў яе таксама зіхацелі, але вельмі ж пагрозліва.

— Ну, што ты, Танечка? Падарункам не задаволена? — хацеў ласкава запытаць я, але жонка так паглядзела на мяне, што я толькі галаву ў плечы ўцягнуў. А потым яна замкнулася ў другім пакоі.

На ўсе мае пяшчотныя словы і запэўненні з-за дзвярэй неслася: «Валацуга...»

Я ўжо зусім страціў надзею ўгаварыць Таню, калі раптам пачуў званок у калідоры. Перада мною стаяў расхрыстаны цёзка Алесь. Паглядаючы сумнымі вачыма, ён працягнуў мне дрыжачымі рукамі бранзалет з надпісам: «Любай Танечцы ад Алеся...»

Д ЫК ВОСЬ... У мяне тры жонкі. Адначасова. Прытым, ніякія там не палюбоўніцы, а самыя што ні ёсць законныя. І жывём мы ўсе разам у адной кватэры. Як так атрымалася? Вельмі проста. Усе яны ў свой час і былі маімі жонкамі, потым пазбягалі. І нейкі час я наогул жыў адзін. Раптам атрымліваю пісьмо ад маёй першай. Вось што яна мне пісала: «Міленькі, даражэнькі мой Міколка, я зрабіла вялікую памылку, што ўцякла ад цябе з гэтым прайдзісветам Грышкам. Цяпер я шчыра каюся. Лепшага мужа, чым ты, не было, няма і не будзе. Калі можаш мне даравадь, то дaруй і дазволь вярнуцца да цябе...»

«Ну, што ж, — падумаў я, — хто ў жыцці не робіць памылак?» І я дазволіў вярнуцца сваёй першай жонцы — Марусі. Жывём мы зноў разам месяц, другі... Як раптам прыходзіць пісьмо ад маёй другой жонкі — Іры, на якой я жаніўся пасля таго, як збегла Маруся.

«Міленькі, даражэнькі мой Міколка, — пісала Іра, — я зрабіла вялікую памылку...» І далей усё амаль слова ў слова, як і ў Марусі. Толькі прайдзісвета звалі не Грышка, а Мішка. Узяў я гэтае пісьмо і панёс да Марусі. Прачытала яна, выцерла хусцінкай слёзы ды і кажа:

— Як я яе разумею... Няхай вяртаецца, будзем жыць утрох. Нічога страшнага.

І вось зажылі мы ўтрох. Жывём месяц, другі, нібы ўжо і прызвычаіліся, як — бац! Прыходзіць пісьмо і ад маёй трэцяй жонкі — Ані, на якой я жаніўся пасля таго, як збегла Іра. І Аня запрасілася назад да мяне. Бо не вытрымала з прайдзісветам Сашкам.

Узяў я пісьмо Ані, панёс да Марусі і Іры.

— Што рабіць? — пытаюся.

Прачыталі яны, праслязіліся ды і кажуць:

— Ніхто так не можа яе зразумець, як мы... Няхай прыязджае. Будзем жыць учатырох. Нічога страшнага...

Вярнулася Аня, зажылі мы учатырох. Я і — тры мае жонкі. Многія мужчыны мне пазайздросцяць, скажуць: «Шчаслівчык!».

Але я не адчуваў сябе шчаслівчыкам. Не было ў мяне вопыту, і я ніяк не мог наладзіць гарэмнае жыццё. На Блізкім Усходзе там усё гэта спрадвеку. У Лівіі, напрыклад, яшчэ зусім нядаўна, пры каралі Ідрысе, законам дазвалялася мужчыне мець тры-чатыры жонкі. Праўда, цяпер Ідрыса гэтага прагналі, можа і там што змянілася.

*АВОХЦІ МНЕ!*

Валянцін ЗУБ

## МАЕ ЖОНКІ

А ў кувейцкага шэйха па прозвішчу Абдула Дыяла Салех аль-Сабах эль Бакр ас-Хафід эс-Шамсудзін жоначак ажно васемнаццаць! Дазнаўшыся пра гэта з замежных газет, я напісаў яму пісьмо з просьбай падзяліцца сваім вопытам — які ў яго распарадак дня, вечара, ночы і г. д. Бо ў маім гарэме нешта не клеілася. Кожная з трох жонак лічыла, што яна ў мяне адзіная, і не зважала на астатніх. І ўсе рабілі выгляд, што ў нас сям'я не палігамная, а манагамная. Вось прыклад. Раніцай усе жонкі гатавалі мне сняданак — кожная свой. Каб нікога не пакрыўдзіць, я вымушаны з'ядаць замест аднаго снедання — тры. Тое ж з абедам і вячэрай. У выніку я пачаў катастрафічна набіраць вагу.

Хадзіць у кіно разам яны таксама адмовіліся. Таму на адзін і той жа фільм я хаджу тройчы! Калі кладуся спаць, то кожная з іх, праяўляючы аба мне клопат, накрывае мяне сваёй коўдрай. Так зімою і летам сплю пад трыма коўдрамі...

Апранаюць мяне, як клоуна, бо кожная патрабуе, каб я абавязкова надзяваў хоць што-небудзь з таго, што набыла яна. Калі, дапусцім, пінжак я апрануў ад гарнітура, які купіла Маруся, то штаны мусіў надзяваць ад гарнітура, які купіла Ірына або Аня, хоць такое спалучэнне часам не лезла ні ў якія вароты.

Усе чакаюць лета, як манны нябеснай. А мяне ад аднаго слова «лета» ў халодны пот кідае. Жонкі мае раз'язджаюцца па розных курортах. Адна едзе ў Крым, другая — на Рыжскае ўзмор'е, а трэцюю нясе, наогул, чорт ведае куды. Ну, і з кожнай жонкай я, відома, павінен хоць з тыдзень адпачыць. Так вось і гойсаю ўвесь месяц ад адной жонкі да другой, ад другой — да трэцяй. А летам самі ведаеце, як падарожнічаць... Народу ўсюды процьма, нікуды не ўбіцца, нідзе не прыткнуцца...

Але па ўсім гэтым яшчэ жыць можна. Горш за ўсё мне даводзіцца тады, калі я часам, бывае, прыштрафлюся: вып'ю з кім-небудзь ці недзе затрымаюся. Тады беражыся, нябога! Мужчына ў такіх выпадках баіцца вяртацца нават да адной жонкі. А ўявіце сабе, як калоціцца маё сэрцайка, ведаючы, што мяне чакаюць аж тры! Тады яны праяўляюць здзіўляючае аднадумства. І калі ў чым іншым яны стараюцца размежавацца, то тут агульнымі намаганнямі надаюць мне такіх кухталёў, што потым я хаджу цэлы тыдзень, як аршын праглынуўшы — ні сагнуцца, ні павярнуцца. А каб прылашчыць, дык фігу з макам, перасылаюць адна да адной, нібы той футбольны мяч.

Што і казаць, няма ў нас вопыту гарэмнага жыцця, таму, відаць, мне так і цяжка. Хутчэй бы ўжо атрымаць адказ ад Абдулы Дыялы Салеха аль-Сабаха эль Бакра ас-Хафіда эс-Шамсудзіна! А пісьма ўсё няма і няма. А я ўжо не магу больш трываць. Усё часцей і часцей выходжу на балкон і пазіраю ўніз з пятага паверха...

...Кончыліся мае ваганні! Бывайце, людцы добрыя! Бывайце, мае мілыя, дарагія жоначкі! Бывай і ты, Абдула Дыяла Салех аль-Сабах эль Бакр ас-Хафід эс-Шамсудзін!

□

Якое шчасце, што ўсё гэта мне толькі прыснілася...



Мал. Жана-Марыса Боска (Францыя).

Мікола ДУБОЎСКІ

## ШАНС НА ПРЫЗНАННЕ

У салон-магазіне спаткаліся два мастакі. Адзін з іх толькі што купіў свой нацюрморт.

— Ты гэта для рэкламы? — пытае другі.

— Не, для сваёй кватэры.

— Хіба такую аперацыю абавязкова праводзіць праз салон?

— Бачыш, я падару нацюрморт жонцы на Восьмае сакавіка.

— Падарыў бы і так, дома.

— Ведаеш, праз салон ямчэй... Інакш ёй цяжка даказаць, што я мастак!

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

 Індэкс 63856 АТ 06607

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.